ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ






ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 3 (17)

ДРУГІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

САКАВІК 1930 г.

Менск. Друкарня БДВ    Заказ № 1564.    3.000 экз.    Галоўлітбел № 1428

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве**

№ 3 (17) | Сакавік 1930 г. | № 3 (17)


## Вузлавыя пытаньні працы саветаў у бягучы момант сацыялістычнага будаўніцтва

Сучасны этап сацыялістычнага будаўніцтва, калі адбываецца масавая суцэльная калектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая павінна ахапіць і перабудаваць на сацыялістычны лад усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР, на падставе чаго і праводзіцца рашучая палітыка ліквідацыі кулацтва як клясы, ва ўмовах усё ўзрастаючага абвастрэньня клясавае барацьбы,—**катэгорычна ставіць пытаньне аб перабудове па-новаму ўсяе працы саветаў.**

У чым-жа канкрэтна заключаецца зьмест працы саветаў у новых умовах? Па якіх пытаньнях павінны яны ў першую чаргу сканцэнтраваць сваю ўвагу?

Цэнтр увагі сельсаветаў павінен зараз перш за ўсё накіравацца ў галіну сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

У сучасны момант усе сельсаветы павінны **павярнуцца тварам да калгасаў,** як сьлед прапрацоўваць пляны калектывізацыі сельскай гаспадаркі і вытворчыя пляны калгасаў, увязваючы гэтыя пляны з агульна-дзяржаўнымі плянамі і паказаньнямі, праводзіць іх у жыцьцё і мабілізаваць навакол іх ажыцьцяўленьня батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы сялянства, дамагацца ўзмацненьня і ўзбуйненьня існуючых і ствараемых калгасаў. Усе сельсаветы, як адзін, павінны **ажыцьцяўляць сапраўднае кіраўніцтва калгасамі,** вядучы настойлівую барацьбу за выкананьне імі сваіх абавязкаў да пралетарскай дзяржавы (хлебанарыхтоўкі, кантрактацыя, падаткі і г. д.), у практычнай працы трэба забясьпечыць максымальную мабілізацыю ўнутрыкалгасных сродкаў на калгаснае будаўніцтва, разглядаць хадайніцтвы калгасаў аб водпуску крэдытаў, зацьвярджаць гэтыя хадайніцтвы, дамагацца іх задавальненьня і наглядаць за правільным скарыстаньнем атрыманых сродкаў; дамагацца ажыцьцяўленьня калгасамі мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці і агульным павялічэньні таварнай прадукцыі калгасаў. Неабходна, зразумела, **узмацніць сувязь саветаў з калгасамі і іх абслугоўваньне з боку саветаў, робячы гэтым уплыў на некалектывізаваныя пакуль што бядняцка-серадняцкія масы сялянства;** трэба завесьці, як сыстэму, справаздачнасьць калгасаў перад сваімі саветамі, **не дапушчаючы,** аднак, пры гэтым **дробязьлівай апекі саветаў ды адміністрацыйнага іх умешваньня ва ўнутранае жыцьцё калгасаў.**

Побач з вялізарнымі посьпехамі ў справе калектывізацыі, якія мы маем, у гэтай галіне меў месца шэраг шкаднейшых перагібаў, як парушэньне ў шэрагу месц прынцыпу добраахвотнасьці ў арганізацыі калгасаў, шляхам падмены яго адміністрацыйным іх насаджваньнем, пераскоку цераз с.-г. арцель непасрэдна на статут камуны і аграмаджаньня непрадукцыйнае жывёлы і сродкаў спажываньня, абмежаваньні ў збываньні сялянамі прадуктаў свае вытворчасьці. Сельсаветы і кожны сельсаветчык павінен **рашуча змагацца з такімі пераскокамі і загібамі ў справе калектывізацыі,** памятаючы, што асноўнай формай калгасу на даны пэрыад зьяўляецца с.-г. арцель.

Сельсаветы павінны **ўсямерна садзейнічаць разьвіцьцю саўгасаў,** узбуйненьню іх і павялічэньню іх уплыву, як **пасьлядоўнага сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, як найбольш узорных прыкладаў арганізацыі вытворчасьці і гаспадараньня для калгасаў, ды паказальнікаў перавагі сацыялістычнай арганізацыі сельскай гаспадаркі для індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.** Сельсаветы павінны ажыцьцяўляць агульнае кіраўніцтва працай саўгасаў, абсьледуючы іх, заслухоўваючы іх справаздачы і ўсямерна дапамагаючы іх разьвіцьцю.

У сучасны момант **важнейшай задачай сельсаветаў зьяўляецца пасьпяховае правядзеньне пасеўнай кампаніі,** шляхам: засеву яравога кліну ва ўсіх утвораных калгасах аграмаджаным парадкам, агульнага павялічэньня пасеўнай плошчы, прыняцьця мер да палепшанай апрацоўкі глебы, стварэньня пасеўных фондаў, разьвіцьця травасеяньня, жывёлагадоўлі, ачысткі насеньня і г. д.

Адначасова ні ў якім разе нельга забывацца, што, хаця калектывізавана большасьць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР, **у нас маецца яшчэ значная, і вельмі значная частка, індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у дачыненьні якіх ва ўсёй моцы захоўваюцца ў бягучую пасеўную кампанію ўсе тыя задачы па палепшаньні якасных паказчыкаў сельскай гаспадаркі, як і ў дачыненьні калгасаў.**

Рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, суцэльная калектывізацыя сельскай гаспадаркі і ліквідацыя на яе падставе кулацтва як клясы, зразумела, выклікаюць жорсткае з яго боку супраціўленьне. Таму, сельсаветы на глебе праводзімай імі суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, павінны **быць на чале практычнага ажыцьцяўленьня ліквідацыі кулацтва як клясы.** У гэты час сельсаветы павінны пільна сачыць за тым, каб кулак і нэпман не пралезьлі ў калгасы і актыўна праводзіць ачышчэньне існуючых калгасаў ад пралезшых туды раней кулацка-нэпманскіх элемэнтаў.

Разам з гэтым, саветы павінны **рашуча змагацца з перагібамі ў дачыненьні серадняка, а таксама ў дачыненьні тых асоб, якія памылкова пазбаўлены выбарчых правоў да вырашэньня іх скарг у вышэйшых органах, не дапускаючы** адмаўленьня ім у прыёме ў калгасы, выключэньня з апошніх, нават, меўшага часам месца, раскулачваньня і дапасаваньня іншых мер барацьбы з кулацтвам. Асабліва ўважліва тут патрэбна падыходзіць да бядняцкага яўрэйскага насельніцтва, якое ў мінулым было ўціснута царскім урадам у жорсткую т. зв. „мяжу аселасьці", пазбаўлялася магчымасьці займацца вытворчай працай, і гэтым самым штурхалася на шлях дробнага гандлю і г. д.

Ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых задач немагчыма, зразумела, бяз шырокай мабілізацыі батрацка-бядняцкіх мас на іх выкананьне, без узмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку, без усямернага разгортваньня працы па арганізацыі беднаты і батрацтва, без узмацненьня палітычнае ролі батрацтва і беднаты, як адзінай асноўнай апоры партыі і савецкай улады на вёсцы. Вось чаму сельсаветы павінны дамагацца павялічэньня колькасьці і ўплыву батрацка-бядняцкага ядра ў сваім складзе і ў складзе ўсіх выбраных органаў на вёсцы, наогул, узмацняючы усе нізавыя органы на вёсцы рабочымі, прысланымі з гораду для сталай працы на вёсцы ў калгасах і сельсаветах.

Сельсаветы павінны рашуча садзейнічаць **паўсямеснай арганізацыі і ўзмацненьню груп беднаты і батрацтва ва ўсіх выбарных савецкіх, грамадзкіх арганізацыях і ў калгасах трэба, каб саветы ва ўсёй сваёй працы абапіраліся на гэтыя групы і на сходы батрацтва і беднаты,** абавязкова прапрацоўваючы з батрацтвам і беднатою ўсе галоўнейшыя пытаньні жыцьця і працы вёскі перад тым, як выносіць іх на канчатковае вырашэньне агульных сходаў і адпаведных савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

З боку сельсаветаў зараз **патрабуецца рашучае і безадкладнае ўзмацненьне працы па бытавым разьняволеньні, па павялічэньні культурнага ўзроўню і сьвядомасьці жанчын-батрачак, бядначак і серадначак, маючы на ўвазе,** што

бытавы кансэрватызм і культурна-палітычная адсталасьць працоўнай жанчыны на вёсцы зараз, ва ўмовах разгортваньня суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, робіцца асаблівым тормазам, часта скарыстоўваецца варожымі элемэнтамі ў мэтах перашкоды разгортваньню сацыялістычнай рэканструкцыі. Вось чаму гэтае вузкае месца энэргічнай працай сельсаветаў і нашымі культурнымі сіламі на вёсцы: настаўніцтвам, камсамолам, аграномамі і г. д. павінна быць у найхутчэйшы час зьліквідавана.

Вырашэньне гэтае задачы трэба пачаць перш за ўсё з арганізацыі бытавых камісій пры ўсіх саветах і выканаўчых камітэтах. Кіраўнікі выканаўчых камітэтаў **павінны прасачыць па сваёй пэрыфэрыі—ці ўсюды арганізаваны камісіі па палепшаньні працы і быту жанчын і ці дастаткова разгорнута праца гэтых камісій.** Трэба шырока папулярызаваць сярод насельніцтва задачы бытавых камісій і прыняць належныя арганізацыйныя меры, каб залучыць шырокі жаночы актыў у практычную працу гэтых камісій. Саветы павінны ажывіць інстытут прымацаваных дэлегатак-практыкантак, уцягваючы іх усямерна ў працу саветаў, у іх сэкцыі і камісіі, забясьпечыўшы сыстэматычнае кіраўніцтва імі, дапамагаючы ім у штодзеннай практычнай працы.

Неабходна прыстасаваць усю адміністрацыйна-гаспадарчую, культурна-сацыяльную і арганізацыйна-масавую працу саветаў да новых задач на вёсцы. У якасьці аднэй з галоўных мер вырашэньня гэтых задач неабходна сканцэнтраваць усю працу па сацыяльна-культурным і бытавым абслугоўваньні калгаснага насельніцтва пры сельсаветах (школы, больніцы, хаты-чытальні, дабрабыт). Для павялічэньня кіруючай ролі сельсаветаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, неабходна **ўсё шырэй разгортваць і сыстэматычна ўзмацняць працу камісій саветаў, рэарганізаваўшы іх па вытворчым прынцыпе.** Трэба рэалізаваць папярэднюю дырэктыву аб стварэньні ў паасобных вёсках і калгасах, па меры патрэбы і наяўнасьці актыву, паасобных камісій на чале з упаўнаважанымі членамі саветаў. Для працы ў камісіі трэба высунуць батракоў, беднякоў і актыўных калгасьнікаў з тым, каб яны склалі асноўнае ядро актыву сельсаветаў. Неабходна ўзмацніць кіраўніцтва камісіямі, сыстэматычна заслухоўваць іх справаздачы, **і ўстанавіць, як правіла, што ўсе важнейшыя пытаньні працы саветаў прапрацоўваюцца папярэдне ў камісіях.**

Адначасова з перабудовай працы саветаў на новы шлях, неабходна рашуча ажывіць і ўзмацніць працу рэвізійных камісій, якія **павінны стаць сапраўднымі дасканалымі органамі шырокага грамадзкага кантролю.** Рэвізійныя камісіі павінны правяраць, як удзельнічае савет у справе калектывізацыі і кіруе ёю, складаньне і выкананьне саветамі сваіх бюджэтаў, выкананьне імі наказаў выбаршчыкаў і дырэктыў вышэйшых органаў, сыстэматычна, нароўне з саветамі адлічвацца перад выбаршчыкамі і адказваць ня толькі за сваю працу, але і за працу саветаў.

У зьвязку з перабудовай працы сельскіх і мястэчковых саветаў неабходна яшчэ больш ажывіць дзейнасьць і гарсаветаў. **Гарсаветам, як пераважна пралетарскім па складу органам, неабходна павялічыць свой кіруючы ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве** ўсямерна дамагацца далейшага пашырэньня масавай працы, уцягненьня большых колаў рабочых і актыву служачых у працу сваіх сэкцый. Прэзыдыумы гарсаветаў павінны ўнесьці большую практычнасьць у працу сэкцый, значна шырэй практыкуючы правядзеньне абсьледваньняў прадпрыемстваў і ўстаноў перад пастаноўкаю дакладаў апошніх на сэкцыях альбо Прэзыдыумах Гарсаветаў, разгарнуць новыя формы прымацаваньня сэкцый і асобных груп іх членаў да пэўных устаноў. Неабходна павялічыць кіраўніцтва працай сэкцый, рэгулярна заслухоўваючы даклады апошніх, склікаць нарады старшынь сэкцый і бюро, папярэдне абгаварваючы і ўзгадняючы пытаньні гарадзкога будаўніцтва. Трэба арганізаваць у тых прадпрыемствах альбо ўстановах, дзе маецца ня менш 3-х дэпутатаў гарсаветаў—дэпутацкія групы, праз якія трымаць сувязь з прадпрыемствамі або ўстановамі праводзіць абслугоўваньне мас выбаршчыкаў. Для лепшага кіраў-

ніцтва працай дэпутацкіх груп практыкаваць пэрыядычны агляд іх працы, наладзіць справаздачы іх перад выбаршчыкамі. Зараз-жа, у бліжэйшы час, заняцца аграмаджаньнем прыгарадных земляў і ўнутрыгарадзкіх гародных фондаў, ствараючы з іх сыравінную базу для забясьпечаньня гарадоў прадуктамі спажываньня.

Побач з узорнай пастаноўкай працы ў гарадох, гарсаветы павінны **ўзмацніць сваю сувязь з сельсаветамі,** дапамагаючы ім у арганізацыі працы, пераносячы туды свой вопыт; **рашуча павялічыць удзел гарсаветаў у разгортваньні суцэльнай калектывізацыі на вёсцы,** шляхам узяцьця шэфства над паасобнымі саветамі, калгасамі і цэлымі раёнамі, накіроўваючы на вёску сваіх дэпутатаў і рабочыя брыгады, вылучаць з свайго складу лепшых таварышоў для сталай працы на вёсцы, усямерна трымаючы з імі сувязь і дапамагаць у рабоце.

Работу ўсіх саветаў па вылучэньні рабочых, батракоў і беднякоў трэба зрабіць сыстэматычнай і масавай. Для гэтага саветы павінны больш шчыльна увязваць сваю працу з прафсаюзамі і групамі беднаты, лепш вывучаць савецкі актыў і на **вопыце практычнае працы выхоўваць кадры для вылучэньня,** узмацніўшы таксама кіраўніцтва і дапамогу вылучаным у апарат савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

Побач з усямерным разгортваньнем каротка-тэрміновых і доўгатэрміновых курсаў па падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў для савецкага апарату па лініі выканкомаў, саветам неабходна шырока арганізаваць сыстэму завочнай падрыхтоўкі праз выдаваемыя завочныя курсы савецкага будаўніцтва.

Гарсаветы, асабліва, павінны **стаць масавым рэзэрвам пралетарскіх кадраў, якія на практычнай рабоце ў гарсаветах і іх сэкцыях падрыхтоўваюцца для працы ў дзяржапараце.** Гарсаветы-ж павінны пашыраць усямерна рабочае шэфства над установамі, як найбольш удалую форму, што злучае ў сябе рабочы кантроль над савецкім апаратам з практычнай падрыхтоўкай кадраў.

Усе тыя задачы і вынікаючыя з іх канкрэтныя мерапрыемствы, якія мы зараз вызначаем патрабуюць узмацненьня матар'яльнае базы і гаспадарчай самастойнасьці гарадзкіх і сельскіх саветаў. Маючы на ўвазе, што бюджэты гарсаветаў за апошнія гады значна ўзмацніліся, у бліжэйшы час зьяўляецца неабходным вырашыць пытаньне аб стварэньні поўнай сеткі сельскіх бюджэтаў. Трэба **ва ўсіх с/саветах раёнаў суцэльнай калектывізацыі абавязкова ў гэтым-жа годзе ўвесьці самастойныя бюджэты.**

Для забясьпечаньня выкананьня ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва, якія пастаўлены перад краінай Саветаў **неабходна арганізаваць і шырока праводзіць паміж саветамі як гарадзкімі, так і сельскімі, сацыялістычнае спаборніцтва** працы, і памятаць, што з гэтымі складанымі задачамі, якія зараз пастаўлены перад саветамі, яны могуць справіцца **толькі пры ўмове палепшаньня масавае працы,** пры згуртаваньні рабочых і батрацка-бядняцкіх мас, толькі пры ўмове пагалоўнага ўцягненьня гэтых мас у штодзенную сваю работу.

**А. Хацкевіч.**

---

**Ператворым сельсаветы ў сапраўдныя баявыя органы дыктатуры пралетарыяту на вёсцы!**

# Новы с.-г. падатак і задачы пасеўнае кампаніі

У лютым гэтага году ЦВК і СНК СССР выдана новае Палажэньне пра с/г. падатак, а 19 сакавіка—пастанова ЦВК і СНК БССР пра с/г. падатак на 1930/31 г.

Каб разумець як сьлед значэньне і асаблівасьці гэтых законаў, неабходна ўлічыць сучаснае палітычнае становішча і задачы, якія стаяць перад намі ў вёсцы. Апошні год—год вялікага пералому прайшоў „пад знакам рашучага наступленьня сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі“. У галіне сельскае гаспадаркі правільная палітыка партыі і ўраду прывяла да таго, што ня толькі беднячтва, але ўжо і масы серадняцтва шырокім фронтам рухнуліся ў калгасы, пашлі па шляху сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі. **БССР фактычна ператвараецца ў рэспубліку суцэльнае калектывізацыі.** Рашучыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва выклікаюць надзвычайнае супраціўленьне кулацка-нэпманскіх элемэнтаў. Кулак, які выбіты са многіх ранейшых сваіх пазыцый (хлебазагатоўкі, самаабкладаньне і інш.), робіць апошнюю стаўку на падрыў калгаснага руху, на дыскрэдытацыю яго ў вачох працоўнага сялянства. Клясавая барацьба ў вёсцы цяпер адбываецца, галоўным чынам, навакол калектывізацыі. Супроць гэтае контр-рэвалюцыйнае агітацыі партыя і ўрад выстаўляюць лёзунг мабілізацыі батрацтва, бедната, калгасьнікаў і сераднякоў навокал задачы найбольшага ўздыму прадукцыйнасьці і таварнасьці працоўнае сялянскае гаспадаркі. Вясна гэтага году павінна быць „бальшавіцкай вясной“, павінна даць надзвычайны рост пасеўнае плошчы і ўздым ураджаю. Другая сэсія ЦВК БССР IX скліканьня па кантрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929/30 г. намеціла **пашырэньне пасеўнае плошчы ня менш, як на 4 проц. і падвышэньне ўраджайнасьці: па саўгасах—на 30 проц., па калгасах—на 25 проц. і па іншых бядняцка-серадняцкіх гаспадарках—на 20 проц.** Цяпер гэтыя меркаваньні ў адносінах да пасеўнае плошчы яшчэ больш павялічаны. **Засеў тэхнічных культур нам трэба пашырыць на 12 проц., канюшыны — на 50 проц., вікі і сэрадэлі—на 40 проц. супроць мінулага году.** Вясеньняя пасеўная кампанія гэтага году і вогуле ўвесь гэты гаспадарчы год будзе вялікай бойкай за перавагу сацыялістычнага земляробства, за буйныя тэмпы ўздыму сельскае гаспадаркі і за канчатковае зьнішчэньне тых кулацкіх элемэнтаў, якія яшчэ не ліквідаваны на базе суцэльнае калектывізацыі. Ясна, што ўсе партыйныя, — савецкія і грамадзкія сілы, уся ўвага батрацтва, бедната, калгасьнікаў і сераднякоў павінны быць накіраваны на посьпех пасеўнай кампаніі.

З пункту погляду пералічаных задач трэба ацэньваць і растлумачваць новы закон пра с/г. падатак. Зьмены, якія ўносяцца ў сыстэму абкладаньня сельскае гаспадаркі, выходзяць з факту масавае калектывізацыі, абвастрэньне клясавае барацьбы і ліквідацыі кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнае калектывізацыі. Задачы новага закону пра с/г. падатак наступныя: **садзейнічаць далейшай калектывізацыі і больш высокім формам яе; дапамагчы далейшаму разгортваньню вытворчых сіл вёскі, сапраўднаму ўздыму таварнасьці калгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; захаваць і пашырыць ільготы беднаце; даць рашучы ўдар па тым кулацтву, якое яшчэ не ліквідавана на базе суцэльнае калектывізацыі, і забясьпечыць ад індывідуальнага абкладаньня серадняцкія гаспадаркі.**

Галоўная асаблівасьць новага закону пра с/г. падатак—новы парадак абкладаньня калгасаў. Новы закон пра с/г. падатак устанаўляе **прапарцыянальнае абкладаньне калгасаў,** спрашчае парадак абкладаньня і зьнішчае прагрэсыўнасьць яго: стаўкі падатку на рубель даходу ўстаноўлены наступныя: **для камун—4 к., для іншых калгасаў—5 кап. Павялічэньне даходу калгасу ня будзе выклікаць павялічэньня ставак падатку.** Апроч таго, новы парадак абкладаньня **спрыяе больш высокім формам калектывізацыі, бо камуны будуць плаціць падатак па стаўцы на 20 проц. меншай,** чымся іншыя калгасы. Новы закон пра с/г. падатак захоўвае ўсе ільготы па

паляводзтву, вызначаныя ў мінулым год е. **Новы закон дае 10 проц. скідкі з падатку за правядзеньне аднаго, або некалькіх мерапрыемстваў па падвышэньні ўраджайнасьці (аграмінімум) і толькі тады, калі гэтыя мерапрыемствы праводзіць цэльная вёска, або калгас.**

Захоўваюцца і леташнія льготы за пашырэньне пасеўнае плошчы. У тых раёнах, дзе абкладаемы даход налічаецца па пасевах (у тым ліку—ва ўсіх калгасах) **прырост пасеўнае плошчы з 1928-29 г. зусім вызваляецца ад абкладаньня.** Ва ўсіх раёнах **на працягу 2-х год не абкладаюцца нановаўзараныя аблогі, калі пры гэтым пашырылася пасеўная плошча.** Закон, такім чынам, заахвочвае калгасьнікаў, беднату і серадзякоў да пашырэньня пасеваў. Наадварот, за злоўмыснае скарачэньне пасеўнае плошчы закон дае магчымасьць пакараць: **гаспадаркі, якія бяз уважлівых прычын скарацілі пасеўную плошчу, будуць абкладацца не паводле скарочанае, а паводле ранейшае плошчы.**

Разам з тым у новым законе знайшла адбітак задача ўздыму прадукцыі гароднііцтва. **Пасевы на насеньне гародных культур зусім вызваляюцца ад падатку. Плошчы гародаў, нанова закладзеных на палявых землях, абкладаюцца не як гароды, а як палявая зямля, г. зн. паводле паніжаных норм. Таксама на паніжаных удвойчы нормах абкладаюцца пасевы лёну і канапель,** прычым ЦВК і СНК БССР пашырылі гэтую льготу на ўсю БССР.

У галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі ўстаноўлена цэльная сыстэма новых буйных льгот. Асабліва важна, што **даходы ад сьвінагадоўлі зусім вызвалены ад с г. падатку. Даходы ад прыросту пагалоўя іншае абкладаемае жывёлы (коняй, валоў, быкоў, кароў, авечак) абкладаюцца са скідкай на 50 проц. з норм даходнасьці. У раёнах прамысловага масларобства нормы даходнасьці для ўсіх кароў і быкоў зьмяншаюцца на 50 проц. супроць устаноўленых у 1928-29 г.** СНК БССР пашырыў гэтую апошнюю льготу на 12 раёнаў БССР, замяніўшы гэтай льготай устаноўленую летась скідку з норм даходнасьці па каровах, запісаных у малочныя арцелі. **За правядзеньне некаторых мерапрыемстваў па падвышэньні якасьці і прадукцыі жывёлагадоўлі (зоомінімум), скідаецца таксама 10 проц.** з усяго падатку як і за аграмінімум. Такім чынам, **калгас ці вёска могуць зьменшыць сабе с/г. падатак адразу на 20 проц. (за агро і зоомінімумы).** Пералік мерапрыемстваў па зоомінімуму таксама вызначаюць акрвыканкомы.

Пытаньне ўздыму жывёлагадоўлі зьвязана з пытаньнем павялічэньня прадукцыі кармоў для жывёлы. Новы закон пра с/г. падатак і тут вызначае асобную льготу: **пасевы сеяных траў і караньплодаў на корм зусім вызваляюцца ад падатку.**

**Пералічаныя льготы па жывёлагадоўлі даюцца як калгасам, так і іншым бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і не даюцца (як увогуле ўсе льготы) — кулакам. Па калгасах, звыш таго, не абкладаюцца с/г. падаткам: 1) уся заводзкая жывёла і жывёла, ухваленая зямельнымі органамі; 2) заводзкія і ўхваленыя стайнікі; 3) жывёла завадзкіх гадавальнікаў.** Новы закон пра с/г. падатак моцна павялічвае абкладаньне кулацтва, зьнішчае ўсе ранейшыя абмежаваньні, за якімі кулак раней часта хаваўся ад падатковага прэсу. Сёлета—**індывідуальнаму абкладаньню падлягаюць усе кулацкія гаспадаркі, якія яшчэ не раскулачаны на базе суцэльнае калектывізацыі.** Новы закон дазваляе і патрабуе, каб да абкладаньня ўлічваўся ўвесь сапраўдны даход кулака. **Неземляробчыя заработкі кулацкіх гаспадарак ва ўсіх відах (у тым ліку і зарплата) абкладаюцца сельгаспадаткам у поўнай суме.** З налічанага даходу сельгаспадатак бярэцца з моцна падвышанай прагрэсыяй—20 кап. і да 70 кап. з рубля даходу. **Аклад падатку кулакі павінны заплаціць да 1 кастрычніка 1930 г.**

Гэтыя зьмены сапраўды даюць рашучы ўдар па кулацтву. Але тым больш увагі трэба зьвярнуць на тое, **каб індывідуальнае абкладаньне не чапіла серадняцкія гаспадаркі.** Новы закон пашырыў пералік адзнак для індывідуальнага абкладаньня, але разам з тым уносіць яснасьць у некаторыя ранейшыя адзнакі. У прыватнасьці, **закон забараняе абкладаць індывідуальна тыя гаспадаркі, якія**

**па розных прычынах прымушаны часткова карыстацца нанятай працай, але ня страчваюць пры гэтым працоўнага характару і не пазбаўляюцца выбарчых правоў.** Закон катэгорычна прапануе мясцовым органам улады ўстанавіць сталы і дасканалы кантроль індывідуальнага абкладаньня, каб забясьпечыць інтарэсы серадняцкіх гаспадарак. Асабліва важна забясьпечыць сапраўды шырокі ўдзел у справе індывідуальнага абкладаньня з боку батрацтва, беднаты і калгасьнікаў. **Закон патрабуе, каб сьпісы кулацкіх гаспадарак на індывідуальнае абкладаньне абавязкова абмаварваліся на групах і сходах беднаты.** Гэта будзе лепшай гарантыяй палітычна-правільных вынікаў працы па выяўленьні і абкладаньні кулакоў.

Вызначаючы шэраг буйных ільгот за ўздым прадукцыі і таварнасьці працоўнае сельскае гаспадаркі, моцна павялічваючы абкладаньне кулацкіх гаспадарак, новы закон захоўвае ільготы беднаце. Пастанова ўраду БССР нават пашырае гэтыя ільготы. Летась неабкладаемы мінімум у БССР складаў 130 р.—пры 1-2 едаках, 150 р.—пры 3 і 4 едаках, 175 р. пры 5 і больш едаках. **Сёлета неабкладаемы мінімум падвышаны** адпаведна з паказанай колькасьцю едакоў **да 140, 160 і 180 руб. на гаспадарку і абхопіць больш як летась, проц. гаспадарак беднаты. Для калгасаў неабкладаемы мінімум устаноўлен на едака: 30 р. пры абкладаньні па нормах і 60 р. пры абкладаньні па даходу з балянсаў.** Іншыя маламоцныя гаспадаркі, з даходам звыш неабкладаемага мінімуму павінны вызваляцца ад падатку раённымі падатковымі камісіямі.

Асобныя ільготы ўстаноўлены **для тых новых калгасаў, у склад якіх увайшла бедната, што летась вызвалялася ад падатку. Калгасу скідаецца 75 проц. з абкладаемага даходу тэй зямлі і жывёлы, якіх гэтыя беднякі ўнесьлі ў калгас.** Значыцца, чым больш беднаты ўвайшло ў калгас, тым больш скідкі ён атрымае. Гэтая вялізарная ільгота па падліку НКФ паменшыць абкладаемы даход па БССР больш як на 20 млн. руб. Апроч таго, маламоцныя камуны з пераважнай беднаты, ня вызваленыя ад падатку паводле неабкладаемага мінімуму даходаў, будуць вызвалены ад палавіны налічанага акладу па пастановах раённых падатковых камісій.

Такім чынам, новаму закону пра с/г. падатак прызначаецца вялізарная роля ў справе вырашэньня чарговых задач партыі і ўраду ў вёсцы. Новыя ільготы па с/г. падатку павінны моцна дапамагчы пашырэньню пасеўнае плошчы, сапраўднаму ўздыму прадукцыі і таварнасьці калгасных і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Але для гэтага неабходна безадкладна разгарнуць самую шырокую агітацыйна-тлумачыцельную працу і да пачатку сяўбы азнаёміць працоўныя масы вёскі са зьместам і сэнсам новага закону. Агітацыя павінна быць досыць яснай, зразумелай, і палітычна-правільнай. Таму трэба загадзя падрыхтаваць кадры агітатараў, прапусьціўшы іх праз 2—3-х днёвыя курсы, ці хаця-б зрабіўшы з імі дэталёвы разбор і вывучэньне новага закону. Плянавасьць і сыстэма ў гэтай агітацыйнай працы будзе мець рашаючае значэньне. Самы шырокі ўдзел у гэтай агітацыі павінны прымаць партыйныя, камсамольскія і грамадзкія сілы, зямельныя працаўнікі, настаўнікі, хатнікі і іншыя культурнікі вёскі. Закон пра с/г. падатак і агітлітаратура, якую выдае НКФ, павінны быць настольнымі кнігамі кожнага з іх на ўвесь час пасеўнае кампаніі. Толькі азнаёміўшы ўсё працоўнае сялянства з новым законам пра с/г. падатак, можна дабіцца вырашэньня тых вялізарных задач, якія ўскладаюць на нас партыя і ўрад.

**М. Кірык.**

**Ад рэдакцыі.** Калі артыкул быў ужо набраны, прэзыдыумам ЦВК СССР была выдана, зьмешчаная ва ўсіх газэтах, пастанова, якая дае шэраг новых ільгот калгасам і калгасьнікам. Гэтая пастанова зьяўляецца новым магутным стымулем далейшага разгортваньня колгаснага руху.

# УМАЦУЕМ НАШЫ СЕЛЬСКІЯ САВЕТЫ

## За добрыя кадры і якасьць працы нізавога савецкага апарату

Сучасны пэрыяд рэканструкцыі нашай народнай гаспадаркі на базе індустрыялізацыі і калектывізацыі вымагае рад мерапрыемстваў, каб найхутчэй перабудаваць работу нізавога савецкага апарату ў адпаведнасьці з задачамі гэтага пэрыяду, які патрабуе ад усіх зьвеньняў савецкага апарату і кожнага работніка ў паасобку асаблівай выразнасьці і гібкасьці ў рабоце.

З боку КП(б)Б і Ўраду БССР прымаліся і прымаюцца такія мерапрыемствы па перабудове і прыстасаваньні работы ўсяго савецкага апарату да сучасных задач сацыялістычнага будаўніцтва. У прыватнасьці адным з найвялікшых мерапрыемстваў па перабудове работы савецкага апарату зьяўляецца —рэарганізацыя Віцебскай акругі ў вопытна-паказальную, адкуль вопыт і мэтады работы павінны быць перанесены ва ўсе астатнія акругі.

Аднак, незалежна ад спрашчэньня і ўдасканаленьня арганізацыйнай структуры нізавога савецкага апарату, пытаньне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі гэтага апарату павінна зьяўляцца галоўнейшай задачай у справе палепшаньня работы саветаў і райвыканкомаў з тым, каб яны сапраўды, як органы дыктатуры пралетарыяту, сталі на чале ўсё пашыраючагася руху бядняцка-серадняцкіх мас сялянства за калектывізацыю, пры ўсё абвастраючайся клясавай барацьбе іх з кулацтвам.

Падрыхтоўка і перападрыхтоўка нізавога савецкага апарату да гэтага часу ажыцьцяўлялася праз курсы для старшынь і сакратароў сельсаветаў, якія зьяўляюцца аднэй з лепшых форм работы ў гэтай галіне, покуль не адчынена навучальная ўстанова па савецкім будаўніцтве. І, бязумоўна, там, дзе райвыканкомы да правядзеньня гэтых курсаў аднесьліся з належнай увагай, яны давалі заўсёды добрыя вынікі. У 1929 годзе райвыканкомы Менскай акругі аднесьліся ня зусім уважліва да правядзеньня курсаў, дзякуючы чаму яны былі праведзены толькі па 13 раёнах (з 17), якімі ахоплена 126 старшынь або 50,9 проц., сакратароў—79, або 34,7 проц., і 38 старшынь КСТУ—16,5 проц. да агульнай колькасьці гэтых пасад. Апрача таго, што праз курсы прайшла меншая палова асноўных работнікаў сельсаветаў, праграма курсаў была скарочана на палову (замест месяцу—два тыдні). Таму, бязумоўна, гэтыя курсы ня далі тых вынікаў, якія яны маглі даць пры больш сур'ёзных адносінах з боку РВК.

Акрамя 2-тыднёвых курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы старшынь і сакратароў сельсаветаў і старшынь КСТУ, праводзіліся 3-дзённыя курсы-нарады членаў сельсаветаў і асобна пры РВК—старшынь і сакратароў сельсаветаў. Гэтыя курсы-нарады праведзены таксама толькі па 13 раёнах, якімі ахоплена ў сярэднім 42 проц. агульнага ліку членаў, 89 проц. старшынь і 78 проц. сакратароў сельсаветаў.

Як бачым, мерапрыемствы па падвышэньню кваліфікацыі работнікаў сельсаветаў праз курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі былі недастатковыя дзякуючы таму, што некаторыя райвыканкомы не аддалі належнай увагі гэтай рабоце, а некаторыя аднесьліся нават нядбайна і курсаў зусім не праводзілі.

Галоўным недахопам самога правядзеньня курсаў было тое, што заняткі на курсах праходзілі без практычнага пераламленьня атрыманых тэарытычных ведаў і толькі па двох раёнах практыкаваўся мэтад заняткаў з практычным правядзеньнем арганізацыйна-масавай работы. Між іншым АВК, пераносячы правядзеньне курсаў старшынь і сакратароў сельсаветаў на месцы (дырэктыва ЦВК была аб правядзеньні акруговых курсаў), меў на ўвазе іменна ўвязку заняткаў на курсах з практычнай работай саветаў. АВК пашоў на гэта, ня гледзячы на тое, што акруговыя курсы маглі быць лепш забясьпечаны больш кваліфікаванымі выкладчыкамі толькі таму, што гэты мэтад мог даць добрыя вы-

нікі ў сэнсе замацаваньня тэарытычных ведаў правядзеньнем іх на практычнай рабоце.

Другім галоўнейшым мэтадам работы па падняцьці працаздольнасьці і кваліфікацыі работнікаў сельсаветаў—зьяўляецца практычная дапамога сельсаветам праз абсьледваньне іх работы і інструктаваньне. Гэта работа павінна праходзіць не пад пунктам погляду рэвізаваньня работы сельсавету, а шляхам практычнай дапамогі, — практычнымі прыкладамі паказаць сельсавету, як ажывіць, наладзіць і прыстасаваць яго работу да сучасных задач, як мабілізаваць масы працоўнага сялянства вакол задач па перабудове сельскай гаспадаркі па шляху калектывізацыі, не дапускаючы ў гэтым скрыўленьня клясавай лініі. У гэтай рабоце менш за ўсё трэба гнацца за колькасьцю абсьледуемых сельсаветаў, а максымум увагі зьвярнуць на якасьць абсьледваньня і практычную дапамогу.

Да апошняга году, як вядома, інструктарска-абсьледавацельскі апарат мелі толькі акрвыканкомы, праз які і праводзілася абсьледваньне і інструктаваньне райвыканкомаў і сельсаветаў.

Гэта адказная галіна работы па Менскай акрузе мела тыя недахопы, што пры вызначаных па штату 3-х інструктароў,—ніколі гэты штат цалкам ня быў запоўнен, прычым зьмены інструктароў вытвараліся па 5—6 разоў у год, што ў корані перашкаджала нармальнай інструктарска-абсьледавацельскай рабоце. Зьмены вытвараліся такімі „тэмпамі", што некаторыя інструктары не пасьпявалі пабыць і разу на раёне ці ў сельсавеце, як яны ўжо зьмяняліся, а гэта ўжо само за сябе гаворыць ня толькі аб якаснай, але і аб колькаснай інструктарска-абсьледавацельскай рабоце. Бязумоўна, такая работа не магла даць жаданых вынікаў.

Зараз у штаты РВК уведзены спэцыяльныя пасады інструктароў, але справа па палепшаньні і прыстасаваньні работы сельсаветаў да сучасных задач рэканструкцыйнага пэрыяду гэтым яшчэ не вырашаецца ў зьвязку з тым, што мы ня маем падрыхтаваных для гэтага адпаведных кадраў работнікаў у той час, калі ад інструктара павінна патрабавацца тэарытычная падрыхтоўка і практычны стаж савецкай і грамадзкай работы. Інструктар павінен ведаць і разумець асноўныя дырэктывы партыі і ўлады, умець пературацца іх у жыцьцё на практычнай рабоце, бо інакш абсьледваньне і інструктаваньне зьвядзецца да простага рэвізаваньня работы сельсаветаў і тэхнічнага складаньня актаў аб гэтым, як гэта і наглядаецца зараз у радзе райвыканкомаў.

У сувязі з гэтым неабходна падаць прыклад з абсьледваньня інструктарам Смалявіцкага РВК 6 сельсаветаў, якое было вытварана на працягу 6 дзён. У кожным з гэтых актаў адзначана па 28—30 пунктаў недахопаў (станоўчыя бакі работы сельсаветаў зусім не адзначаны) і прапарцыянальна ім, у некалькіх словах, запісана такая-ж колькасьць прапаноў, у якіх нічога практычнага для выпраўленьня і наладжаньня работы ня сказана. Ніякая практычная работа на месцы ў сельсавеце інструктарам не праведзена, ды яна і не магла быць праведзена пры абсьледваньні 6 сельсаветаў за 6 дзён. Такая інструктарская работа праводзіцца і ў іншых раёнах акругі.

Усё гэта гаворыць за неадкладную неабходнасьць падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадру інструктароў для райвыканкомаў праз спэцыяльныя акруговыя або рэспубліканскія курсы і поўным укамплектаваньні штатаў інструктароў акрвыканкомаў. Разам з гэтым трэба дабіцца замацаваньня інструктароў АВК на значны час на рабоце, з падзелам паміж імі работы па асобных галінах, што дасьць магчымасьць падвысіць іх кваліфікацыю, бо работа іх па ўсёй сыстэме кіраўніцтва работай нізавога савецкага апарату ня можа даць належных практычных вынікаў.

Урэшце да гэтага часу не выкарыстоўваецца амаль зусім такая надзвычайна даступная і выгадная форма павялічэньня кваліфікацыі і падрыхтоўкі кадраў нізавых савецкіх работнікаў, як завочныя курсы савецкага будаўніцтва.

Неабходна безадкладна прасунуць завочныя курсы савецкага будаўніцтва ў кожны сельсавет, стварыць гурткі савецкага будаўніцтва і распачаць з імі працу.

**П. Ягаўдзік.**

# Становішча і пэрспэктывы разьвіцьця сельскіх бюджэтаў у БССР.

Пасьля правядзеньня раёнаваньня і ўзбуйненьня сельскіх саветаў БССР было пастаўлена пытаньне аб увядзеньні ў відзе вопыту самастойных бюджэтаў у некалькіх найбольш эканамічна моцных сельскіх і местачковых саветах. Трэба адзначыць, што першыя спробы ў гэтых адносінах насілі досыць скромны характар. Лік самастойных бюджэтаў у 1926-27 г. складаў: сельскіх — 13 і местачковых—12, у 1927-28 годзе—сельскіх 61 і местачковых 19. Месцы, а ў асаблівасьці фінансавыя органы, падыйшлі да справы разгортваньня сельскіх бюджэтаў з праўвялічанай асьцярожнасьцю, з якаснага-ж боку сельскія бюджэты ў многіх выпадках насілі характар простых расходна-прыходных каштарысаў, складаньне і выкананьне якіх часта праводзілася Райвыканкомам бяз удзелу фактычнага гаспадара бюджэту—сельскага савету. Іншыя рэспублікі ў той-жа час сталі на больш шырокі шлях утварэньня сельскіх бюджэтаў. Так, напрыклад, у 1927-28 г. Украіна мае 10—15% сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі, Сібірскі край — 25%, Паўночны Каўказ — 42%. АССР немцаў Паваложжа—100%. БССР-жа мае ўсяго 4,5% сельскіх саветаў з самастойнымі бюджэтамі. 3-я Сэсія ЦВК БССР VIII скліку ўнесла пералом у гэтую справу. Па дакладу т. А. І. Хацкевіча аб масавай рабоце саветаў Сэсія пастанавіла ісьці па шляху далейшага павялічэньня колькасьці сельскіх бюджэтаў.

Аднак, у ходзе далейшай працы высьвятлілася, як акрвыканкомы, так і Народны Камісарыят Фінансаў усё-жа прынялі досыць нерашучыя крокі да сапраўднага выкананьня гэтай дырэктывы. Лік самастойных бюджэтаў у 1928-29г. быў даведзены:—сельскіх—да 84 (з агульнага ліку 1.426 сельсаветаў) і местачковых—да 24 (з агульнага ліку 56 местачковых саветаў). Прэзыдыум ЦВК БССР, заслухаўшы на сваім пасяджэньні 8 чэрвеня 1929 г. даклад Народнага Камісара Фінансаў аб становішчы сельскіх і местачковых бюджэтаў, прызнаў недастатковае выкананьне акрвыканкомамі пастановы III Сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня аб павялічэньні колькасьці сельскіх і местачковых бюджэтаў. Разам з гэтым была адзначана адсутнасьць дастатковага нагляду і кантролю з боку Наркамфіну за гэтай справай. Прэзыдыум ЦВК паказаў Наркамфіну і акрвыканкомам на неабходнасьць утварэньня у 1929-30 г. па 2—3 самастойных сельскіх бюджэты ў кожным раёне з тым, каб агульны лік сельскіх бюджэтаў складаў па рэспубліцы ня менш 200—250. Незалежна ад таго, мясцом была дададзена дырэктыва аб утварэньні самастойных бюджэтаў ва ўсіх бяз выключэньня местачковых саветах.

Характарызуючы сучаснае становішча сельскіх і местачковых бюджэтаў і іх моцнасьць у параўнаньні з мінулым, неабходна застанавіцца на наступных даных:

У 1929-30 годзе самастойныя бюджэты ўведзены ў 333 сельскіх і 52 местачковых саветах. Па паасобных акругах колькасьць самастойных сельскіх бюджэтаў і процант ахопу імі сельскіх саветаў складае:

| Назва акругі. | Уведзена бюджэтаў. | Процант ахопу. |
|---|---|---|
| Віцебская | 127 | 100 |
| Магілеўская | 36 | 13,5 |
| Гомельская | 35 | 13,3 |
| Аршанская | 31 | 20,6 |
| Менская | 33 | 15,0 |
| Бабруйская | 28 | 13,5 |
| Мазырская | 25 | 18,3 |
| Полацкая | 18 | 16,3 |

Агульны процант ахопу сельскіх саветаў самастойнымі бюджэтамі па ўсёй БССР складае 23. Па Віцебскай акрузе, як вопытна-паказальнай самастойнай бюджэты ўведзены ва ўсіх бяз выключэньня сельскіх саветах. Сярэдні аб'ём

нізавых бюджэтаў складае: а) местачковага савету ў 1926-27 г. — 13.500 рублёў, у 1927-28 г.—16.300 руб., у 1928-29 г.— 13.840 руб. і ў 1929-30 г.—17.064 рублі; б) сельскага савету: у 1926-27 г.—9.000 р., у 1927-28 г.—9.400 рублёў, у 1928-29 г.— 9.030 рублёў, у 1929-30 г.—12.516 руб. Як бачна з гэтых лічбаў, аб'ём як сельскага, так і местачковага бюджэту паменшыўся ў 1928-29 г. у параўнаньні з 1927-28 г. і павялічыўся ў 1929-30 г. у параўнаньні з 1928-29 г. Першае тлумачыцца дадатковым увядзеньнем у 1928—1929 г. самастойных бюджэтаў у эканамічна параўнача менш моцных саветах, а другое агульным узмацненьнем мясцовых бюджэтаў і павялічэньнем выдаткаў па сельскіх бюджэтах на гаспадарчыя і культурныя патрэбы (часткова, зразумела, і за кошт датацыі).

Актыўнасьць сельскіх саветаў у частцы складаньня і выкананьня сельскіх бюджэтаў у параўнаньні з мінулым бязумоўна паднялася, таксама павялічыўся ўдзел грамадзкасьці ў гэтай справе. Але ў гэтых адносінах яшчэ і на апошні дзень маецца шмат хібаў. Райвыканком часта падмяняе сабою сельскі савет у справе адміністраваньня сельскім бюджэтам, пазбаўляючы такім чынам сельскі савет магчымасьці праявіць уласную ініцыятыву ў вышуканьні новых бюджэтных крыніц, у лепшым і больш рацыянальным скарыстаньні прадугледжаных выдаткаў; ня ўсюды рэвізійныя камісіі ажыцьцяўляюць неабходны кантроль за правільнасьцю выдаткаваньня сельскімі саветамі сродкаў і наогул выкананьня імі бюджэтаў; сельскія бюджэты рэдка калі абгаварываюцца на агульных сходах. Па тых сельскіх саветах, дзе самастойны бюджэт ужо існуе два або некалькі год і дзе маюцца самастойныя крыніцы даходаў, галоўным чынам непадатковага характару, там, бязумоўна, сельскі савет за апошнія часы стаў сапраўдным гаспадаром і распарадчыкам свайго бюджэту. Па астатніх саветах справа абстаіць горш; усё-ж і тут практыка выкананьня бюджэтаў непасрэдна сельскім саветам ужываецца ў значна большых разьмерах, чымся ў мінулыя гады.

У частцы інструктаваньня сельскіх саветаў з боку акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў у справе складаньня і выкананьня бюджэтаў наглядаецца палепшаньне; у некаторых акругах праводзіліся інструкцыйныя нарады з работнікамі сельскіх саветаў. Як агульнае правіла адзначаецца, што там, дзе пад дзейнасьць сельскага савету падведзена эканамічная база ў выглядзе самастойнага бюджэту, там, дзе сапраўдным гаспадаром гэтага бюджэту зьяўляецца сельскі савет, там агульная праца сельскага савету, і ў асаблівасьці масавая праца, пастаўлена значна лепш, чымся ў іншых саветах. Гэтым тлумачыцца тая вялікая і выключная ўвага, якая ўдзялялася ўвесь час Прэзыдыумам ЦВК БССР гэтай справе. Так, напрыклад, за адну толькі першую палову 1929-30 г. Прэзыдыум ЦВК ставіў на сваіх пасяджэньнях пытаньне аб сельскіх бюджэтах 3 ці 4 разы. На апошнім сваім пасяджэньні—27 сакавіка г.-г. Прэзыдыум ЦВК БССР канстатаваў, што вопыт ўвядзеньня самастойных сельскіх бюджэтаў зусім сябе апраўдаў. Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦВК пастанавіў: увесьці з 1930-31 году самастойныя бюджэты ва ўсіх бяз выключэньня сельскіх саветах, дзе праведзена суцэльная калектывізацыя; ва ўсіх іншых сельскіх саветах бюджэты павінны быць уведзены ня менш як у палове сельскіх саветаў, пры гэтым акруговыя выканаўчыя камітэты маюць права і павінны ўзяць напрамак на ўвядзеньне самастойных бюджэтаў ва ўсіх сельскіх саветах, улічваючы мясцовыя ўмовы.

Такім чынам, бярэцца лінія на ўвядзеньне самастойных бюджэтаў ва ўсіх бяз выключэньня сельскіх саветах БССР, ужо магчыма з 1930-31 году. Некаторыя акрвыканкомы (Менск) ужо выказваюць такую думку.

Пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР дае акрвыканкомам поўную магчымасьць (нават даецца такі напрамак) увесьці самастойныя бюджэты ва ўсіх сельскіх саветах.

**Лібман**.

29-III—30 г.

# САВЕТЫ НА ЎЗДЫМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

## Першая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці

Улетку 1930 году, згодна пастановы Ураду БССР у г. Менску адчыніцца 1-ая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, якая прыстасавана да дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

Наступныя ідэі павінна адбіць нашая выстаўка: 1) кіруючую ролю Камуністычнае партыі ў індустрыялізацыі краіны і сацыялістычным будаўніцтве, 2) вядучую ролю індустрыялізацыі ў перабудове сельскае гаспадаркі, прычым, трэба паказаць ролю індустрыі такім чынам, каб кожны рабочы, батрак, бядняк і наогул калгасьнік вышаў пасьля агляду выстаўкі перакананым у неабходнасьці індустрыялізацыі, 3) перавагу буйной калектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай, працэс пераходу дробнай гаспадаркі к буйному калгаснаму земляробству. Адначасова з гэтым, выстаўка павінна даць на прамак арганізацыі гэтых гаспадарак і ўсе экспанаты і аддзелы павінны агітаваць, як за буйную гаспадарку, гэтак і за новы быт і кіруючую ролю рабочае клясы ў перабудове вёскі, 4) мабілізаваць увагу ўсяе пралетарскай грамадзкасьці на хутчэйшае выкананьне пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

Ва ўмовах Беларусі, як прымежнай рэспублікі саветаў, наша выстаўка павінна таксама адлюстраваць барацьбу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ўсіх нацыянальсьцяй Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, за вызваленьне ад улады капіталістых і адначасова выстаўка павінна адбіць усе дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва і культуры.

1-ая Ўсебеларуская Выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што толькі дзякуючы ўтварэньню Савецкай Улады, улады дыктатуры пралетарыяту, дзякуючы таму, што Савецкая Беларусь зьяўляецца наразрыўнай часткай Саюзу ССР, пры яго матар'яльнай дапамозе і пад умелым кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, БССР змагла атрымаць такія значныя дасягненьні як у гаспадарчым, гэтак і ў культурным будаўніцтве, што забясьпечваюць усе мажлівасьці далейшага шырокага разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва.

Выстаўка павінна паказаць усім працоўным Беларусі матар'яльныя магчымасьці нашае краіны для пабудовы сацыялізму, яна павінна яскрава падкрэсьліць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны праз сацыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, шляхам яе калектывізацыі, Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачы перамогі сацыялізму.

Весь з гэтае прычыны выстаўка мае вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне.

Для таго, каб урачыста адзначыць дзень вызваленьня Беларусі ад капіталістых і абшарнікаў, II-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту IX-га скліканьня ўхваліла прыстасаваць урачыстае адчыненьне выстаўкі к дню дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад акупантаў.

Выстаўка мае мэтай паказаць усё тое, што ў нас ёсьць лепшага, усе нашы дасягненьні. Дзеля таго, каб паказаць экспанаты ў натуральных умовах, умовах самага вытворчага працэсу, каб выстаўка была больш зразумелай і паказальнай для рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас, месца пад выстаўку выбрана каля гораду Менску, па Барысаўскім тракце, у асяродку вопытна-паказальных дасьледчых станцый НДІ.

Пад выстаўку адведзена плошча ў 75 *га*, на якой будуць дэманстравацца жывыя пасевы і пасадкі, як, напрыклад: 18 шматпалёвых севазваротаў на плошчы 9 *га;* ягадныя і новыя культуры на плошчы 2 *га;* пладовы сад на плошчы ў 6 *га;* ягадныя кусты, клубніка, пладовы выхавальнік, гадавальнік сэлекцыйнага матар'ялу азімых і яравых культур,

дэманстрацыя ўплыву розных штучных угнаеньняў на ўраджай зернавых, корань-клубняплодаў і лёну. Будзе паказана плошча па кормазабываньні з пасевамі адпаведных траў. Значная плошча адведзена машынаспробнай станцыі, якая пакажа ў дзеяньні розныя тыпы с.-г. машын і прылад і іх практычнае ўжываньне ў гаспадарцы.

Выстаўка будзе складацца з наступных 14 аддзелаў: 1) прамысловасьці (рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай), 2) аграмаджанага сэктару с. г., 3) мэханізацыі і электрыфікацыі, 4) працы і быту ў прамысловасьці і с. г. 5) навукова-асьветны, 6) земляробства (расьлінагадоўля, садоўніцтва, гародніцтва), 7) жывёлагадоўлі, малочнае гаспадаркі, і вэтэрынарыі, 8) лясной гаспадаркі і паляваньня, 9) зямляўпарадкаваньня і сельбудаўніцтва, 10) мэліарацыі, культуры балот і торпу, 11) рыбнае гаспадаркі, 12) дарожнае гаспадаркі, 13) экспорту, імпорту і гандлю, 14) камунальнае гаспадаркі.

Усе гэтыя аддзелы будуць разьмешчаны ў 40 павільёнах. Гэтымі аддзеламі будзе ахоплена ўся народная гаспадарка і культура БССР, чаму выстаўка і зьявіцца школай для працоўных мас, дзе на кожнае запытаньне можна будзе знайсьці адказ.

Кожны працоўны павінен лічыць сваім грамадзкім абавязкам наведаць выстаўку і да яе рыхтавацца. Выстаўка толькі тады дасягне свае мэты, калі яна будзе мець масавы характар.

Каб азнаямленьне з выстаўкай насіла арганізаваны характар, Галоўвыстаўком намеціў прапусьціць праз Выстаўку 50.000 чалав. экскурсантаў; месцы ўжо разьмеркаваны паміж акругамі ў залежнасьці ад удзельнай вагі кожнае акругі.

Каб даць магчымасьць удзельнічаць у выстаўцы бядняцка-серадняцкай частцы насельніцтва, урадам устаноўлены значныя ільготы для экскурсантаў, якія будуць прадстаўляцца на мясцох Акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі ў залежнасьці ад матар'яльнай забясьпечанасьці экскурсантаў.

Агляд выстаўкі разьлічаны на 3 дні. На час экскурсій прафсаюзы г. Менску прынялі шэфства над экскурсантамі сялянамі, шляхам прадастаўленьня сялянам памяшканьня ў кватэрах рабочых і служачых. Гэтая жывая сувязь падкрэсьліць яшчэ раз сталую змычку рабочых мас гораду з бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі. Надаючы выстаўцы вялізарнейшае палітычнае і эканамічнае значэньне, трэба кожнаму працоўнаму добра падрыхтавацца да яе.

Да адчыненьня выстаўкі засталося зусім мала часу. Трэба ў тэрміновым парадку раскачаць месцы, бо да гэтага часу ў сэнсе падрыхтоўкі экспанатаў зроблена вельмі мала.

Гэтая праца хутка пойдзе наперад, калі ўсе арганізацыі і ўстановы, акругі і раёны, усе разам паставяць падрыхтоўку да выстаўкі ў цэнтр свае працы.

Справа падрыхтоўкі экспанатаў пойдзе яшчэ больш шпаркім тэмпам, калі мы разварушым ініцыятыву і энтузіязм шырокіх мас, калі мы падрыхтоўку да выстаўкі будзем праводзіць і ў раёнах і ў акругах і ў цэнтры, пад лёзунгам сацыялістычнага спаборніцтва.

Трэба, каб лёзунг **„Рыхтуйся да выстаўкі“** выконваўся ўсімі і кожным на 100 проц.

**А. Таўкач.**

**Усебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці—яскравы паказчык дасягненьняў, што здабыты, здабываюцца і будуць здабывацца, у нашым сацыялістычным будаўніцтве.**

# Сельска-гаспадарчыя камісіі саветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі

Пастанова бюро ЦК КП(б)Б, вызначаючы задачы саветаў у сувязі з масавай калектывізацыяй, першаю задачаю ставіць, што „сельсаветыпавінны зьявіцца арганізатарамі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе разьвіцьця сацыялістычнае сельскае гаспадаркі, павінны стаць на чале работы ліквідацыі кулацтва як клясы і поўнасьцю адказваць за гэтую справу“. Толькі на аснове арганізацыі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас і пры актыўным удзеле іх у рабоце сельскіх саветаў—сельскія саветы змогуць пасьпяхова выконваць задачы па арганізацыі калгасных гаспадарак і кіраўніцтве імі. Бліжэйшая задача—пасьпяховае правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі—ізноў такі калі будзе працаваць толькі прэзыдыум сельскага савету бяз удзелу батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас, наўрад ці выканаецца сельскімі саветамі з жаданымі вынікамі.

Лепшаю формаю масавае работы зьяўляюцца камісіі. Але да гэтага часу яны працавалі слаба. Большасьць камісій бязьдзейнічала зусім. Нават такія камісіі, як сельска-гаспадарчая і культурна-асьветная, маючыя надзвычайна-добрыя ўмовы для разгортваньня шырокае работы ў вёсцы, і ў малай долі не скарысталі гэтых магчымасьцяй.

Зараз, напярэдадні пасеўнай кампаніі, работу сельска-гаспадарчых вытворчых камісій неабходна наладзіць і дабіцца таго, каб сельска-гаспадарчыя вытворчыя камісіі сапраўды і стала дапамагалі сельскім саветам у іх рабоце па разьвіцьцю гаспадаркі ў калгасах.

Першае, чым прыдзецца заняцца нанова абраным сельскім саветам—гэта дапамога калгасам у складаньні вытворчых плянаў і праверка іх работы ў гэтым напрамку.

Складаньне вытворчых плянаў калгасаў—неадкладная і вельмі важная задача. Старшыня і Сакратар сельскага савету, як-бы яны не працавалі, без дапамогі актыву ў гэтым пытаньні многа ня зробяць.

Вытворчыя пляны калгасаў павінны ўсебакова абмяркоўвацца сельска-гаспадарчымі вытворчымі камісіямі сельскіх саветаў. Гэтыя камісіі правяраюць складзеныя пляны, вывучаюць іх рэальнасьць і вынікі свае работы дакладваюць сельскаму савету.

Сельскі савет зможа правільна вырашаць гаспадарчыя пытаньні, калі яны папярэдне будуць распрацоўвацца батрацка-бядняцкім і серадняцкім актывам у сельска-гаспадарчых вытворчых камісіях.

У час правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі, у пэрыяд арганізацыі гаспадаркі ў калгасах—сельскі савет толькі тады будзе кіраўніком гаспадарчага жыцьця калгасаў, калі гаспадарчае жыцьцё кожнага калгасу, кожнага аддзяленьня калгасу будзе добра вядома сельскаму савету, будуць вядомы недахопы, памылкі і дасягненьні ў рабоце. Аб гаспадарчым жыцьці калгасаў—сельскі савет павінен ведаць у першую чаргу праз сельска-гаспадарчую вытворчую камісію. Гэтая камісія—галоўны дапаможнік сельскага савету ў кіраўніцтве гаспадарчым жыцьцём калгасаў.

Шмат было прычын, па якіх да гэтага часу сельска гаспадарчыя камісіі не працавалі. Асноўная прычына—адсутнасьць жывога кіраўніцтва. Сельскія саветы ня ўмелі арганізаваць работу камісій ня ведалі іх абавязкаў Абмяжоўваліся агульнымі паказаньнямі. Ня было канкрэтнасьці. Вось, напрыклад, Нізкаўскі сельсавет, Касьцюковіцкага раёну (Магілеўскага раёну) па дакладу сельска-гаспадарчай камісіі прымае пастанову: „камісіі павясьці шырэй растлумачальную працу сярод сялянства аб значнасьці калектыўных форм зямлякарыстаньня шляхам пасяленьня існуючай камуны „Савецкая Беларусь“, сачыць за іспраўнасьцю шляхоў і калодзезяў; дабіцца 100-процантнага збору попелу дзеля скарыстаньня яго на мінэральнае ўгнаеньне“. У пастанове пераблытаны абавязкі камісій (пры сельсавеце маецца і камісія дабрабыту), ня дадзена канкрэтнае работы і, зразумела, што ніякае дапамогі сельска-гаспадарчая камісія сельсавету не аказвала.

Другая прычына: сябры камісій раскіданы па паселішчах на адлегласьці 5—6 кілёмэтраў, склікаць іх на пасяджэньне вельмі цяжка. Затым слаба практыкавалася скліканьне нарад кіраўнікоў камісій пры райвыканкомах. Зусім не распрацоўваліся прыкладныя пляны работы камісій.

Усім сельскім саветам на бліжэйшых пленумах трэба будзе асобна абмеркаваць пытаньне аб рабоце сельска-гаспадарчых вытворчых камісій; вылучыць працаздольных кіраўнікоў гэтых камісій, паклапаціцца зразу-ж у работу гэтых камісій уцягнуць лепшыя вясковыя сілы, вызначыць асноўныя, канкрэтныя пытаньні, падлягаючыя прапрацоўцы камісіі.

Не ва ўсіх сельскіх саветах умовы работы сельска-гаспадарчых вытворчых камісій будуць аднолькавыя. Некаторыя сельскія саветы займаюць частку буйнага калгасу; у некаторых саветах маецца некалькі калгасаў; у адным сельскім савеце паселішч больш, у другім—менш. Работа сельска-гаспадарчых вытворчых камісій павінна прыстасоўвацца да ўмоў свайго савету. Напэўна, неабходна будзе ўнесьці некаторыя зьмены ў самую арганізацыю камісій. Сельскі савет на сваёй тэрыторыі будзе мець некалькі гаспадарчых адзінак (аддзяленьні калгасаў, эканоміі) незалежна ад разьмераў калгасаў. Напэўна добра было-б каб у кожнай гэтай адзінцы было-б ядро сельска-гаспадарчае камісіі (кіраўнік ядра—сябра сельскага савету і ў складзе ядра—батрацка-бядняцкі і серадняцкі актыў). Калі склікаць на пасяджэньне камісіі за 5—6 кілёмэтраў, як гэта паказала практыка мінулых гадоў, на пасяджэньнях удзельнічае вельмі нязначная колькасьць і масавага ўдзелу ў рабоце камісіі няма. Іншая справа—работа ядра камісіі ў адным-двух паселішчах. Тут магчыма частая і масавая прапрацоўка гаспадарчых пытаньняў данай гаспадарчай адзінкі. Кіраўнік ядра, ідучы на пленум камісіі, ужо будзе мець думку шырокіх мас па тым ці іншым пытаньні, сельска-гаспадарчая вытворчая камісія будзе мець багаты фактычны матар'ял і зможа аказаць рэальную дапамогу сельскаму савету ў справе кіраваньня гаспадаркаю калгасаў.

Марудзіць з арганізацыяй сельска-гаспадарчых вытворчых камісій нельга. Ад наладжанасьці работы гэтых камісій будзе залежыць пасьпяховасьць перабудовы работы сельскіх саветаў у галіне кіраўніцтва калгасамі. Райвыканкомам патрэбна будзе таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу на кіраўніцтва работаю сельска-гаспадарчых вытворчых камісій.

**Д-к.**

### Ад рэдакцыі

Зьмяшчаючы артыкул т. Д-к, рэдакцыя зварочвае ўвагу на асаблівую важнасьць працы с.-г. камісій таксама ў некалектывізаваных яшчэ саветах і насельных пунктах, як арганізатараў уздыму вытворчасьці пакуль што індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і накіраваньня апошніх на шлях калектывізацыі.

Рэдакцыя просіць т.т. з месц пісаць больш па гэтым пытаньні ў наш часопіс, прычым пісаць не наогул аб з дачах камісій і саветаў, якія досыць поўна і яскрава вызначаны партыйнымі і ўрадавымі пастановамі, а аб тым як практычна пераламляюцца гэтыя задачы ў рабоце камісій і саветаў на мясцох.

Рэдакцыя.

# Добрая арганізацыя працы ў калгасах — лепшы агітатар за калектывізацыю

# ПАДЦЯГНЕМ ГАРСАВЕТЫ

## ГАРСАВЕТЫ—НА НОВЫЯ ФОРМЫ І ТЭМПЫ РАБОТЫ

Нашым Гарадзкім Саветам у пэрыяд грамадзянскай вайны і ў адбудоўчы пэрыяд нашае народнае гаспадаркі ў справе арганізацыі рабочае клясы належаць вялікія заслугі. Гарсаветы пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, абапіраючыся на пралетарскія масы гарадзкога насельніцтва, гэраічна перамаглі ўсе цяжкасьці перажытага часу і набылі вялікі практычны вопыт у сваёй штодзеннай працы.

Аднак, гэтыя дасягненьні і заслугі ў мінулым ніяк не павінны быць падставай для заспакойваньня на сучасным этапе сацыялістычнай рэканструкцыі краіны. Такім настроям, што „мы ня гэтакія цяжкасьці перамаглі", „нам усё нічым", якія даволі распаўсюджаны сярод нашых гарсаветчыкаў, не павінна быць месца. Пад гэтымі настроямі і дзякуючы ім звычайна знаходзяць сабе прытулак адставаньне ад жыцьця, ад баявых задач сёньняшняга дня, адрыў ад шырокіх рабочых і працоўных мас, бясплянавасьць у рабоце, адсутнічаньне належных тэмпаў.

Сучасны момант патрабуе хуткіх зьмен у формах і мэтадах работы ўсіх органаў пралетарскай дыктатуры. Гарсаветы павінны перабудаваць сваю работу так, каб сапраўды адчувалася, што яны стаяць тварам да вытворчасьці, да сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, да прамфінпляну, павялічэньня вытворчасьці працы, зьніжэньня сабекошту—адным словам, да ўсіх важнейшых пытаньняў бягучага дня, каб яшчэ больш узмацнілася кіруючая і арганізуючая роля гарсаветаў у працэсе росту актыўнасьці шырокіх рабочых і працоўных мас.

У рабоце гарсаветаў павінна быць аддадзена самая сур'ёзная ўвага правядзеньню клясавай лініі, забясьпечаньню правільнага ажыцьцяўленьня палітыкі падаўленьня клясава-варожых элемэнтаў, канцэнтрацыі ўсяе ўвагі на выкананьні пляну сацыялістычнага будаўніцтва і забясьпечаньня ва ўсёй дзейнасьці гарсаветаў сапраўднага шырокага кантролю рабочых мас і палепшаньні якасных паказчыкаў працы шляхам сацспаборніцтва, бо ажыцьцяўленьне новых задач немагчыма без разгортваньня шырокай грамадзка-палітычнай работы сярод рабочых і працоўных гораду.

Мабілізацыя працоўных пластоў гарадзкога насельніцтва вакол усіх мерапрыемстваў гарсавету павінна стаць аднэй з важнейшых задач у сучасны момант. Толькі той Гарсавет, які здолее падняць на належную вышыню арганізацыйнамасавую работу, які здолее ў штодзеннай сваёй рабоце ўстанавіць самую шчыльную сувязь з шырокімі масамі выбаршчыкаў, а гэтага трэба дабіцца,—здолее выканаць пастаўленыя перад імі задачы рэканструкцыйнага пэрыяду народнае гаспадаркі.

З боку рабочых і, наогул, працоўных мас ёсьць вялікая актыўнасьць, накіраваная на палепшаньне дзяржапарату, каапэрацыі і вытворчасьці, патаненьне кошту прадукцыі і г. д. Але нашы Гарсаветы і, наогул, дзяржапарат яшчэ не прыстасаваліся, каб хутка падхапліваць ініцыятыву мас, замацоўваць яе і прасоўваць далей. Ёсьць надзвычайна каштоўная ініцыятыва і прапановы вытворчых нарад рабочых, сэкцыянэраў, паасобных дэпутатаў і г. д. па пытаньнях палепшаньня і рацыяналізацыі дзяржапарату і вытворчасьці, сваячасовай сыгналізацыі аб скрыўленьнях клясавай лініі, але да ўсяго гэтага няма патрэбнай уважлівай чуласьці з боку нашых Гарсаветаў.

Некалькі прыкладаў, як зараз у большасьці працуюць Гарсаветы. Вось, што гаворыць справаздача Бабруйскага Гарсавету (брашура—выдана за час—сакавік 1929 г., люты—1930 г.) „На пасяджэньнях пленуму разгледжана 32 пытаньні, з якіх: арганізацыйных — 12, пытаньні абароны—2, камунальных—4, сац. забясьпекі—1, палітычных—4, фінансавых—3, аховы здароўя—2 і каапэрацыі—4". Дзе-ж пытаньні аб прамысловасьці? Пытаньні аб выкананьні прамфінпляну, аб калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспа-

дарак, якія ўваходзяць у гарадзкую мяжу і іншыя? Хто-ж гэтымі важнейшымі пытаньнямі павінен займацца, як не гаспадар гораду—Гарсавет? Пяцігадовы плян зусім не абгаварваўся Гарсаветам. А якжа складаўся Бабруйскім Гарсаветам бюджэт? А вось як гаворыцца ў справаздачнасьці: „слаба прапрацованы пытаньні складаньня бюджэту па сэкцыях..., апошні на рабочых сходах не абгаварваўся", і ў заключэньне гаворыцца: Гарадзкі бюджэт зьяўляецца дэфіцытным"... Затое, што мы далей бачым у той-жа справаздачы „за справаздачны час выявілася недаабкладаньне нэпманскага элемэнту па гораду на 42.000 рублёў, працаўнікі 2-га фінансавага вучастку былі зьняты з працы, адданы пад суд і асуджаны"... І толькі 2-га вучастку? А ці ўпэўнены Бабруйскі Гарсавет у тым, што ўсе прыбыткі нэпманаў выяўлены? Ці ня гуляе яшчэ ў два-тры разы больш грошай прыбытковай часткі гарадзкога бюджэту па кішэнях нэпманаў у першым фінвучастку і іншых мясцох?— Трэба пашукаць праз рабочы кантроль.

У другіх Гарсаветах, ня лепш справа абстаіць. Калі ў Бабруйску зьняты з працы фінансавыя супрацоўнікі, дык у Аршанскім Гарсавеце—„галоўка" Гарсавету зьнята за нядбайнасьць. Тут аб працы нельга і прыкладаў падаць, бо, наогул, амаль праца не праводзілася Гарсаветам.

Некалькі слоў аб Магілеўскім Гарсавеце. Таксама Гарсавет разглядаў на сваіх пасяджэньнях шмат пытаньняў, нават гарадзкую купальню не абмінуў. Па пытаньні аб зборы попелу па гораду. Гарсавет зрабіў такую „ласку" і запісаў у пастанове „Правядзеньню пахолу па гораду за попелам—ня супярэчыць". Шэраг яшчэ пытаньняў было разгледжана Магілеўскім Гарсаветам, але не аб выкананьні пяцігадовага пляну, не аб прамысловасьці, не аб масавай працы і інш. важнейшых пытаньнях сацыялістычнага будаўніцтва, а так сабе—заслухаць дзіцячы дом і „адзначыць", „канстатаваць", „здавальняючы", „нездавальняючы". Гэтыя кароткія прыклады яскрава гавораць аб тым, што работа гарсаветаў павінна быць пастаўлена на новыя рэйкі і пастаўлена безадкладна, каб праводзіць усю работу праз масы і разам з шырокім рабочым актывам, выконваць важнейшыя задачы па будаўніцтву сацыялізму. **Ц. Віна-даў**

## Работа гарсаветаў адстае ад запатрабаваньняў часу

**(Магілеўшчына)**

Асноўным недахопам работы гарсаветаў у мінулыя гады была неналаджанасьць масавай работы і больш усяго ў друку, менавіта, і пісалася аб мэтадах і формах уцягненьня ў работу гарсаветаў працоўных.

Гарсаветы Магілеўшчыны ў 1929 годзе ў сэнсе ўцягненьня мас у сваю работу мелі пэўны пералом. Гарсаветы, асабліва акруговы, наладзілі работу сэкцый, прыцягнулі да працы членаў гарсавету, стварылі некаторы актыў з рабочых і дэлегатак, які досыць стала наведваў паседжаньні, удзельнічаў у розных абсьледваньнях і г. д. У сваю работу і работу сэкцый гарсаветы ўнесьлі плянавасьць, дабіліся некаторай дысцыпліны ў рабоце. Наогул, у справе разгортваньня масавай работы маюцца дасягненьні, так сказаць, арганізацыйнага характару.

Крыху інакш—справа ў адносінах самога зьместу практычнае работы, размаху яе і суадпаведнасьці запатрабаваньням асноўных задач партыі і савецкае ўлады.

Возьмем, напрыклад, акруговы гарсавет—Магілеўскі, работа ў якім, бязумоўна, лепш пастаўлена, чым у гарсаветах неакруговых гарадоў.

Чым гарсавет, галоўным чынам, займаўся?

Калі праглядзець работу Прэзыдыуму і пленуму, дык больш усяго на пасяджэньнях разглядалася пытаньняў народнае асьветы, аховы здароўя і затым кватэрных пытаньняў. За год заслуханы даклады і справаздачы амаль усіх дзіцячых садоў і камун гораду, прычым, нават ставіліся даклады аб асобных галінах работы гэтых устаноў (аб ходзе пасеўнай кампаніі ў камуне № 2).

Праўда, гарсавет вельмі рупліва і ўважліва адносіўся да ўсіх пытаньняў дабрабыту гораду, да ўпарадкаваньня кватэрнага пытаньня і ў гэтым напрамку маюцца пэўныя вынікі.

Гарсавет яшчэ ў красавіку м-цы наладзіў праверку займаемай у камунальных

дамох плошчы праз рабочыя брыгады і членаў гарсавету. Дзякуючы гэтай праверцы было задаволена кватэрамі 128 сем'яў рабочых шляхам высяленьня з камунальных дамоў нэпманскага элемэнту і праведзена больш правільнае разьмеркаваньне жылькёвай плошчы. Шмат зроблена па ўп 'адкаваньні гораду.

Але-ж, калі можна так сказаць, палітыка дробных спраў пашкодзіла размаху работы: асяродкаваньню ўвагі на цэнтральных задачах сацыялістычнага будаўніцтва.

З-за дзетсадоў, камун, кватэр, адводу вучасткаў, разгляду на пасяджэньнях прэзыдыуму пытаньня аб чарговых адпачынках інспэктароў, работнікаў Камгасу, загадчыкаў школ і іх намесьнікаў і г. д., з-за пытаньняў аб гарадзкой купальні,— гарсавет абмінуў пытаньні прамысловасьці, абмінуў пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва, пяцігодкі і калектывізацыі.

Ня гледзячы на тое, што ў 1929 годзе ў Магілеве разгарнулася буйное будаўніцтва – гарсавет за год ніводнага разу не пацікавіўся пытаньнем аб будаўнічых матар'ялах, аб іх вырабу, аб своечасовасьці заявак будуючых арганізацый на гэтыя матар'ялы (а ў гэтым напрамку ёсьць упушчэньні) і толькі ўжо ў бягучым годзе гарсавет пытаньнямі будаўніцтва пачаў цікавіцца больш.

Затым, ня гледзячы на тое, што гарсавету непасрэдна падпарадкавана некалькі прадпрыемстваў, за год не заслухана ніводнага дакладу прадпрыемства. Амаль увесь нагляд за прамысловасьцю, уся работа гарсавету ў напрамку разьвіцьця прамысловасьці, выявілася ў заслуханьні ў жніўні месяцы дакладу камунальнага трэсту, ды камунальнай сэкцыяй абсьледвана становішча заводу „Зьвязда“, прычым ажыцьцяўленьне прапаноў сэкцыі ні гарсаветам, ні сэкцыяй у далейшым не правяралася. А мо' мясцовая прамысловасьць настолькі арганізавана, прадпрыемствы ўжо так добра працуюць, што і ня было патрэбна гарсавету цікавіцца іх работаю? Наўрад, ці гэта можна сказаць, бо па Магілеўскаму камбінату, напрыклад, за мінулы гаспадарчы год, маецца недавыкананьне зьніжэньня сабекошту ў параўнаньні з вызначанымі лічбамі на 4,1%.

Характэрнымі зьяўляюцца такія моманты: 23 красавіка на прэзыдыуме гарсавету абмяркоўваецца пытаньне паходу за попелам і прымаецца пастанова—„правядзеньню паходу па гораду за попелам не супярэчыць; даручыць сябром гарсавету аказаць садзейнічаньне“; 21 мая гарсавет канстатуе што аб'яўлены АкрФА месячнік спагнаньня нядоімак па мясцоваму бюджэту своечасовы і неабходны.

Па пытаньнях, якія выходзяць за кола дабрабыту, асьветы і аховы здароўя, гарсавет „канстатуе“ і „ня супярэчыць“.

Гарсавет забыўся пра тую частку наказу, якая гаворыць аб разьвіцьці прамысловасьці, гарсавет, мабыць, ня ведаў аб пастановах IX Усебеларускага зьезду, бо гэткія не прапрацоўваліся.

Пяцігадовага пляну ў гарсавеце няма і ня было спроб складаньня яго.

Нават такое пытаньне, як гарадзкі бюджэт, у сэкцыях, за выключэньнем камунальнай (!), не прапрацавана.

У выніку мелася такое становішча: сэкцыя аховы здароўя пасьля абсьледваньня і заслухоўваньня дакладаў мэдычных устаноў прыняла пастановы, якія зусім нельга было ажыцьцявіць за адсутнасьцю сродкаў (павялічэньне штатаў, набыцьцё інструманту, рамонты і г. д.). Такім чынам работа прападала дарэмна, бо сэкцыя ў сваіх прапановах не арыенталася на бюджэтныя магчымасьці.

У гарсаветах неакруговых гарадоў практычная дзейнасьць таксама мела такі характар, як і ў акруговым гарсавеце.

Шклоўскі райвыканком, у пастанове за 4 студзеня г. г., адзначае, што пры наяўнасьці ў горадзе значнае колькасьці агароднае зямлі—гарсавет не паклапаціўся арганізаваць садова-гароднае таварыства; гарсавет мала ўвагі зьвярнуў на распаўсюджваньне 3-й пазыкі індустрыялізацыі, на праверку карыстаньня жылою плошчаю і г. д. Зусім не займаліся гарсаветы неакруговых гарадоў, за выключэньнем Клімавіцкага, пытаньнямі калектывізацыі.

Як і ў большасьці сельскіх саветаў работа гарсаветаў ня ідзе ўровень з запатрабаваньчямі часу. Важнейшыя пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва з прычыны загружанасьці дробнымі справамі, не займаюць цэнтральнага месца ў рабоце гарсаветаў.

Да аднаго з момантаў, зьявіўшыхся прычынаю такога становішча, трэба аднесьці недастатковасьць кіраўніцтва.

За год з усіх гарсаветаў праверана была работа толькі аднаго—Чавускага. Астатнія гарсаветы працавалі без усялякага кіраўніцтва.

Зараз, пры разгарнуўшайся калектывізацыі, задача падцягваньня работы гарсаветаў і перабудова яе, зьяўляецца нікольк ня меншай, чым гэткая-ж задача ў адносінах сельскіх саветаў, і гэта асабліва неабходна ў Магілеўшчыне, як акрузе суцэльнай калектывізацыі. дзе гарсаветы павінны прыняць шырокі ўдзел у рабоце, якая праводзіцца па калектывізацыі акругі.

А. Дубовік.

# АЧЫШЧАЕМ СВАЕ РАДЫ

## Праверка і чыстка нізавога савецкага апарату

(Папярэднія вынікі)

Вялічэзныя задачы па ажыцьцяўленьні лініі партыі і ўраду ў галіне індустрыялізацыі нашае краіны і перабудовы сельскай гаспадаркі і ўсяго жыцьця вёскі на грунце шпаркага разьвіцьця калгаснага будаўніцтва, правядзеньне выразнай клясавай лініі і зьнішчэньне кулацтва як клясы—высоўваюць ва ўвесь рост пытаньне аб якасьці працы нашага сав. апарату і ў першую чаргу нізавых яго зьвеньняў, як непасрэдных выканаўцаў гэтых задач нашай партыі ў практычнай рабоце на вёсцы.

Зусім зразумела, што без сапраўднага палепшаньня працы сав. апарату, без рашучага спрашчэньня, патаненьня і прыстасаваньня яго да запатрабаваньняў жыцьця, без яскравага вырашэньня кожным зьвяном нашага апарату задач, што перад ім стаяць, без рашучай барацьбы і перамаганьня коснасьці, цяганіны, бюрократызму і няўважлівых адносін да працоўных, без ачысткі сав. апарату ад тых, хто скрыўляе клясавую лінію, што няздольны на справе ажыцьцяўляць палітыку партыі і ўраду, без абнаўленьня яго за лік рабочых, батракоў і бедняты,—ня могуць быць пасьпяхова вырашаны задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Праверка і чыстка нізавога сав. апарату, побач з засьмечанасьцю яго чужым элемэнтам, асабліва ў органах каапэрацыі і дзярж. гандлю (нарыхтоўшчыкі сыравіны), выявіла шэраг буйных недахопаў у практычнай працы як сельскіх, так і раённых установ. У асноўным гэтыя недахопы, выяўленыя дзякуючы толькі вялікай актыўнасьці і зацікаўленасьці беднацка-батрацкага і серадняцкага насельніцтва, зьявіліся вынікам зусім нездавальняючага асабістага складу нізавога сав. апарату. У людзях і яшчэ раз у людзях—„гвозд" якасьці працы сав. апарату ў цэлым і ў паасобных яго зьвеньнях.

Аналізуючы выяўленыя недахопы ў працы нізавога сав. апарату і канкрэтных насіцеляў гэтых недахопаў, неабходна адзначыць, што недахопаў выявілася больш там, дзе ў складзе апарату як сельскіх, так і раённых установ знаходзіўся чужы нам элемэнт. Характарызуючы працу паасобных установ, трэба сказаць, што ў асноўным іх недахопы зводзяцца да наступнага: сельсаветы не зьяўляюцца яшчэ галоўнымі кіраўнікамі работы на вёсцы і амаль што на ўсе 100 проц. не стаяць на чале калектывізацыі, а ў паасобных выпадках перашкаджаюць яе руху. Так, напрыклад, у Рэчыцкім раёне Гомельскай акр. сельсаветы, замест працы па арганізацыі калектыўных гаспадарак, вялі цэлую кампанію супроць калектывізацыі. Такія-ж выпадкі наглядаліся і ў іншых раёнах.

Асабліва дрэнна абстаіць справа з правядзеньнем у жыцьцё клясавай лініі. Тут, дзякуючы таму, што сельсаветы не ўцягваюць бедняту і батрацтва ў справу практычнага ажыцьцяўленьня гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў партыі і ўлады, у масе мелі месца такія выпадкі,

як разьмеркаваньне сенажаці на жывёлу— больш жывёлы, больш сенажаці, невыяўленьне кулацкіх гаспадарак для індывідуальнага абкладаньня (Зарубецкі с/с, Крычаўскага раёну з 20 кулацкіх гасп. паказаў толькі 4-ы і шмат, аналёгічных выпадкаў па другіх с/с), купля і продаж зямлі (старшыня с/с. Хойніцкага раёну адкупіў у бедняка зямлю на 300 р.), прадастаўленьне кулацкім гаспадаркам ільгот за гарэлку па таму-ж Хойніцкаму с/с; разьвёрстка заданьняў па хлебанарыхтоўках пагалоўна на ўсіх сялян; выдача кулакам даведак, як беднякам. Магчыма прывесьці сотні і тысячы аналёгічных прыкладаў. Не абыходзіцца ў працы сельсаветаў і без бюракратызму і цяганіны. Так, напрыклад, у Жыцінскім с/с. у час праверкі яго працы знойдзена шэраг заяў беднякоў, якія не разглядаліся амаль што па году. Побач з гэтымі недахопамі ў галіне правядзеньня клясавай лініі, выяўлены моманты парушэньня савецкай дэмократыі, калі старшыня с/с. самастойна як па форме, так і па сутнасьці адмяніў пастанову Пленуму с/с. па хлебанарыхтоўках, аслабаніўшы ад раскладкі частку заможных, пераклаўшы на беднату. Акрамя таго, у шэрагу выпадкаў пытаньні, падлягаючыя вырашэньню Прэзыдыуму, альбо Пленуму с/с. вырашаюцца, самастойна старшынёю.

Ня менш недахопаў выяўлена ў працы нізавой спажывецкай і с/г. крэдытнай кааперацыі, дзе, акрамя засьмечанасьці апарату чужым элемэнтам (былыя гандляры, нядаўна пакінуўшыя гандаль, пазбаўленцы, кулакі і інш.), выяўлены бюрократызм і няўважлівыя адносіны да насельніцтва. Вось некалькі прыкладаў. Па Торвальскаму с/с. Рэчыцкага раёну крэдытам карысталіся кулакі і нават былы абшарнік, а бедната па году хадзіла за атрыманьнем крэдыту, але не атрымала яго. Старшыня с/г. т-ва Пухавіцкага раёну т. Шкілёнак выдаў крэдыт кулаку ў разьмеры 200 р., а другому, індывідуальна-абкладзенаму,— с/г. машыну ў растэрміноўку на год. У шэрагу выпадкаў крэдыт у буйных сумах выдаваўся папом і кулаком (Грудзінаўскае с/г. т-ва, Магілеўскай акр.). Гэткае-ж становішча наглядаецца па Бабруйскай акрузе, дзе, паміж іншым, закупшчык с/г. т-ва—былы гандляр, пазбаўлены выбарчых правоў, сыстэматычна спэкуляваў, сродкамі т-ва, фактычна падпольна трымаў сваю краму, але, ня гледзячы на гэта, праўленьне абараняла яго, як „незамянімага".

Выяўлена дрэнная ахова лясоў як дзяржаўных, так і мясцовага значэньня, дзе за гарэлку і хабары разбазарваўся лес, дзякуючы яшчэ і таму, што ў шэрагі лясное варты пралез чужы элемэнт.

З боку раённых устаноў (РВК) ня было адпаведнага і сваячасовага рэагаваньня на ўсе гэтыя недахопы. Прычым нямала недахопаў выявілася і ў працы самых РВК і іх частак. Праверка паказала, што амаль усе РВК зусім недастаткова кіруюць працай сельскіх установ, дзякуючы чаму адсутнічае належная масавасьць працы сельсаветаў, зусім слаба працуюць камісіі сельсаветаў, сельсаветы не апіраюцца на групы беднаты і інш. Акрамя таго, РВК у сваёй працы таксама ў шэрагу выпадкаў парушалі клясавую лінію. Так, напрыклад, у Бабруйской акрузе меў месца выпадак, калі РВК зарэгістраваў садова-гароднае т-ва ў ліку 41 гаспадаркі, з якіх аказалася 38 кулацкіх. Па Глускаму раёну недаабкладзена 70 кулацкіх гаспадарак, пры адначасовым пераабкладаньні серадняков і інш. Вось чым у асноўным характарызуецца становішча працы і яе недахопы па ўсім нізавым савецкім апараце.

Па становішчу на 15/III-30 г. чыстка асабістага складу нізавога сав. апарату ў цэлым па БССР і па асобных акругах характырызуецца наступнымі лічбовымі данымі:

| Акругі | Колькасьць раёнаў, дзе праведзена чыстка | Колькасьць вычашчаных | З іх па катэгорыях | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | I | II | III |
| Гомельская | 11 | 423 | 136 | 212 | 81 |
| Бабруйская | 12 | 751 | 248 | 312 | 191 |
| Мазырская | 10 | 483 | 125 | 198 | 166 |
| Віцебская | 7 | 357 | 99 | 154 | 104 |
| Полацкая | 1 | 24 | 8 | 8 | 8 |
| Магілеўская | 11 | 365 | 131 | 133 | 101 |
| Аршанская | 6 | 202 | 40 | 84 | 78 |
| Менская | 5 | 145 | 35 | 95 | 15 |
| Усяго | 63 | 2.390 | 822 | 1.190 | 754 |

Гэтыя лічбовыя дадзеныя зьяўляюцца далёка няпоўнымі, паколькі значная колькасьць раёнаў яшчэ не прайшла чыстку, каб падвесьці агульныя вынікі ў цэлым па БССР. Але і паданых лічбаў дастаткова, каб судзіць аб засьмечанасьці нізавога сав. апарату, аб той вялікай колькасьці працаўнікоў нізавога апарату (па 63 раёнах—2.390 чал.), якія фактычна на справе перашкаджалі нам пасьпяхова вырашаць задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Бязумоўна, што тут пры праверцы такой колькасьці працаўнікоў не абыйшлося і без непаразуменьняў, калі ў паасобных выпадках вычышчалі і тых, хто гэтага не заслугоўваў. У якасьці прыкладу магчыма падаць вельмі цікавы выпадак, які меў месца ў Клімавіцкім раёне, Магілеўскай акрузі, дзе ў якасьці вычышчанай аказалася дзяўчына-сялянка, вылучаная на адказную працу ў якасьці старшыні РайКСТУ. Ня гледзячы на тое, што Клімавіцкаму РВК было добра вядома, што т. Афанасьева, як ня досыць пісьменная, не магла на першых часох самастойна, без належнага кіраўніцтва і дапамогі ў працы, справіцца з выкананьнем адказнай працы, тым ня менш з боку Прэзыдыуму РВК ня было праяўлена неабходнага падтрыманьня ў яе працы. Зусім пагэтаму ня дзіўна, што ў выніку такой дапамогі і незацікаўленасьці ўмовамі працы сялянскай дзяучыны вылучэнкі, маглі быць памылкі і недахопы.

Але на гэтым справа з вылучэнкай Афанасьевай ня скончылася. Камісія па чыстцы сав. апарату па Клімавіцкаму раёну, замест таго, каб дэталёва высьвятліць адносіны работнікаў РВК да вылучэнкі, ступень дапамогі ёй у рабоце, уцягнуць яе ў працу па чыстцы апарату раённых і сельскіх устаноў, што непасрэдна ўваходзіла ў абавязак камісіі па чыстцы, занялася высьвятленьнем, ды і то павярхоўным, недахопаў у працы вылучэнкі Афанасьевай Камісія ня ўлічыла, што Афанасьева зьяўляецца вясковай дзяўчынай-вылучэнкай, а знайшоўшы недахопы ў яе працы, пастанавіла—зьняць з працы, чым налажыла на вылучэнку пляму вычышчанай.

Магчыма было-б падаць і шэраг іншых прыкладаў нездавальняючага падыходу камісій па чыстцы працаўнікоў. Ва ўсіх такіх выпадках акруговыя і цэнтральная камісіі сваячасова выпраўляюць гэтыя недахопы.

Праводзімая праверка і чыстка нізавога сав. апарату з усёй яскравасьцю адбівае сабою клясавую барацьбу. Побач з праяўленьнем актыўнасьці з боку батракоў, беднаты і серадняцкага сялянства, чужыя і кулацкія элемэнты імкнуліся скарыстаць чыстку апарату ў сваіх клясавых інтарэсах. Яны спрабавалі дыскрэдытаваць адданых савецкай уладзе работнікаў і абараняць клясава-чужыя, разлажыўшыяся элемэнты, якія засьмечвалі наш апарат. Наглядаліся спробы зрабіць уплыў на сход, шляхам арганізаваных выступленьняў, выкрыкаў, запужваньня, спрабавалі сарваць сходы па чыстцы, шляхам падпалу саломы, сгралянiны, выкліканьня панікі і інш. Аднак, гэтыя спробы ў асноўным не дасягнулі сваёй мэты, дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў чыстцы бядняцка-серадняцкіх мас. Гэтая актыўнасьць выразілася ў вялікім наведваньні сходаў (200—400 чал.), прычым часта сядзелі да 1—2 гадз. ночы з дзелавой крытыкай усёй работы нашых органаў на сяле, дэтальна абмяркоўваючы кожную кандыдатуру, кожнага савецкага вясковага працаўніка.

Адзначаны выпадкі, калі сяляне на конях прыяжджалі на сходы па чыстцы мясцовых устаноў.

Гэтая актыўнасьць, зацікаўленасьць шырокіх колаў рабочых, батракоў, беднаты і сераднякоў да працы сав. апарату дапамагла нам ачысьціць сав. апарат ад усіх тых, хто перашкаджае ажыцьцяўляць палітыку партыі і ураду.

**Хмялеўскі.**

# Што выяўляе чыстка савецкага апарату

**(Бягомля)**

Самая распаўсюджаная тэма, якая выклікала вялікае ажыўленьне ў Бягомльскім раёне за гэты месяц—гэта чыстка савецкага апарату. Па сельсаветах гэта праверка і чыстка служачых савецкіх устаноў ужо канчаецца і ўжо цяпер можна шмат чаго сказаць аб становішчы сельсаветаў і іх работы па Бягомльскім раёне. Багацейшы матар'ял, які сабраны камісіяй па чыстцы не якім-небудзь бюракратычным, габінэтным спосабам, а жывой масавай працай пры непасрэдным удзеле шырокіх колаў сялянства выяўляе сапраўдны твар сельсаветаў.

Але-ж перш некалькі аб самой чыстцы савецкага апарату і аб тым, як яна праходзіць па раёну.

Трэба сказаць, што праверка і чыстка савецкага апарату па Бягомльскім раёне выклікала нябачную зацікаўленасьць з боку самых шырокіх колаў насельніцтва. Праверка і чыстка савецкіх служачых праходзіць тутака на надзвычайна вялікіх масавых сходах сялянства, якое імкнецца на сходы з суседніх вёсак за некалькі кілёмэтраў. Сходы кожны раз зацягваюцца да 2—3 і нават да 4-х гадзін начы, бо само сялянства вельмі актыўна ўдзельнічае ў праверцы і чыстцы савецкага апарату. Кожнага служачага правяраюць усебакова і дзякуючы гэтакай актыўнасьці саміх сялян камісіі па чыстцы ўдаецца выявіць сапраўдны твар працаўнікоў нізавога савецкага апарату, ачысьціць апарат ад чуждых і варожых нам элемэнтаў, ад элемэнтаў, якія ня ўмеюць, ці ня хочуць працаваць так як гэтага патрабуюць інтарэсы нашае савецкае дзяржавы і нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Вось вам Асаўскі сельсавет:

Вельмі добра і спакойна жылося кулаком Асаўскога сельсавету пры старшыні яго Скакуну Рыгору. Ён ня толькі не чапаў кулакоў, але-ж абараняў іх, хадайнічаў за іх, каб іх індывідуальна не абкладаць, каб ім дзе службу якую даць. Сам заможны серадняк Скакун Рыгор стаў старшынёй арганізаваўшайся ў Асавох Камуны і сам разлажыў яе.

У калектывізацыю сельскай гаспадаркі сам ня верыць. Скакун Рыгор камісіяй па чыстцы зьняты з працы па 3-й катэгорыі. Таксама зьняты з працы па 3-й катэгорыі і другі Скакун—Міхась, старшыня Камітэту ўзаемадапамогі Асаўскога сельсавету. Гэты Скакун Міхась хоць і бядняком зьяўляецца, але-ж дэзэртыр Чырвонай арміі, самагоншчык, злодзей, часта займаецца дробнымі пакражамі і, будучы загадчыкам млыну, часта крадзе там муку, пакрываючы потым пакражы памольным зборам.

Ну, ці-ж гэтакім працаўніком месца ў савецкім апараце?

Далей, калі ўзяць Кадлубіцкі сельсавет: тутака „супчыкі" былі па лініі Лесбелу, як, напрыклад, Гайдук Даніла, лясьнік Бягомльскага лясьніцтва, ён так „шчыра" служыў, што кошт пакрадзенага лесу ў яго абходзе дасягае „толькі"... 500 руб. Гайдук Даніла зьняты цяпер з працы па 3-й катэгорыі.

А другі Гайдук—Хведар яшчэ чысьцей: ён сабе дзесятнік Бягомльскай канторы Лесбелу, атрымоўвае добрую пэнсію, сам моцны кулачок, плаціць падатку ўсяго толькі 7 руб., бо зямля ў яго ў большасьці захаваная, кожны год наймае вясковых баб на палявыя работы, а цёмныя забітыя бабы-бяднячкі, выступаючы на сходзе, кажуць: „добры чалавек гэты Гайдук; калі ў нас есьці няма чаго, Гайдук пудзік бульбы дасьць, а мы за гэта ў яго працуем". З рабочымі лясьнымі Гайдук абыходзіцца груба, высокамерна, многіх абражае. Нічога дзіўнага няма, што за кароткі час Гайдук акулачыўся, нажыў багатую гаспадарку. Ён цяпер зьняты з работы па 1-й катэгорыі.

Як абстаіць справа ў Бярэзінскім сельсавеце. Вось вам экзэмпляр № 1. Гэта Гайдук Алесь былы старшыня сельсавету. Яго на сходзе трымалі два вечары па тры гадзіны; цікавы, вельмі цікавы суб'ект. Работу па калектывізацыі і наогул сваю работу ён праводзіць асобным „сваім мэтадам"; стук кулаком і пагрозы: „ня пойдзеце ў калгас, дык пойдзеце ў Сібір, на Салаўкі"—і кончана. Некато-

рыя сяляне і сялянкі пра Гайдука так і гавораць: „Гайдук—гэта зьвер, а не чалавек“. А сам перад тым, як уступіць у калгас, разбазарыў усю сваю маемасьць.

Прыехаўшы у в. Ліпск мірыць сялян, Гайдук іх „памірыў“ таксама „сваім“ спосабам: пабіў аднаго селяніна, дык астатнія самі супакоіліся. Пры падзеле сенажаці надзяліў усіх, толькі для беднякоў не хапала. Але-ж гэтага мала. Варта было прыслухацца да выступленьняў сялян, якія малявалі Гайдука, як „грамадзкага дзеяча“ ў час белапольскай акупацыі: Гайдук быў шчырай служкай белапалякам; будучы ў той час старастам, ён разгульваў з чырвонай павязкай на рукаве і ўгаджаў белапалякам, як ляпей ня трэба; не дарэмна Гайдук атрымаў ад аднаго польскага паручніка ў падарунак рэвольвэр, які і сёньня ў яго маецца. Ня мала сялян з вёскі Ліпск белапалякі павязалі і лупцавалі па паказаньнях Гайдука, а некаторых нават закалолі штыхамі. Калі Пятрусь Маркавец аб гэтым на сцэне расказваў, дык яго як у ліхаманцы кідала ад хваляваньня. Гэтакім зьяўляецца Гайдук. Ён зьняты з работы па 1-й катэгорыі.

Вось вам яшчэ Захарэвіч Гіляр, былы старшыня Бярэзінскага спажывецкага таварыства: ён уводзіць свае паявыя стаўкі дзеля таго, каб палегчыць заможнікам; мала што ёсьць на гэты конт палажэньні і дэкрэты вышэйшых савецкіх органаў; у Захарэвіча ёсьць „свае“ дэкрэты, і ён уводзіць паявую стаўку ў 15 руб. для сераднякоў. Адначасна ён ніколі не адмовіць нэпманам і спэкулянтам у водпуску тавараў; можаце запытацца ў Бягомльскага нэпмана Гітліна: ён напэўна скажа, што Захарэвіч лепшы з лепшых. Захарэвіч зьняты з работы па 3-й катэгорыі.

Шэндзіла Лаўрэн, адрэзчык Лесбелу, гэта такі агідны антысавецкі элемэнт, які выяўляецца на самых простых рэчах. Ён, напрыклад, з яхідзтвам кажа камісіі па чыстцы на яе запытаньні, „я белорусского языка не знаю, к нему не прывык и мне все равно, на каком языке говорить“. Адносна калгасу кажа „пойдут люди—пойду и я“. Адносна вылікаў, якія робяцца з пэнсіі за газэты, пазыкі і інш., ён кажа так: „высчитывают из моего жалованья каждый месяц 7 руб., сам не знаю за что“. Шэндзіла Лаўрэн зьняты з работы па 3-й катэгорыі.

А калі вы возьмеце, прыкладна, гэтакую фігуру, якой зьяўляецца Бабіч Максім—старшыня малочнага таварыства ў Бярэзіне. Ён раней сакратаром сельсавету быў, дык разваліў яго работу, за што не адзін раз атрымаў вымовы і нарэшце зьняты з работы. Цяпер, працуючы старшынёй малочнага саюзу, ён, атрымаўшы ад акрмалсаюзу заданьне па правядзеньню кантрактацыі малака, падняў у першую чаргу хадайніцтва аб зьмяншэньні нормы па кантрактацыі малака. „Серадняцкая сялянская карова — кажа Бабіч—дае 2—3 літры малака ў самую лепшую пару і нельга выканаць нормы акрмалсаюзу“.

А вось на запытаньне камісіі, што ім зроблена дзеля таго, каб палепшыць жывёлагадоўлю, каб карова давала ня 2, а 12 літраў малака, Бабіч нічога сказаць камісіі ня мог. Ды ён аб гэтым і ня мысьліць. Затое Бабіч мае „крэпкі“ апарат: у якасьці зарыхтоўшчыка ён ніяк ня змог знайсьці іншага „спэца“ як Сьвердліна пазбаўленца і сына пазбаўленца (Бярэзінскага разьніка), які ніякіх адносін да савецкай працы ніколі ня меў. Бабіч Максім за гэтакую сваю дзейнасьць зьняты з работы па 3-й катэгорыі; зразумела, што і яго „спэц“ Сьвердлін таксама зьняты з работы.

Праверка і чыстка савецкага апарату па Бягомльскаму раёну суправаждаецца вялікай масавай выхаваўчай работай, зьвязваючы яе з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, асабліва з важнейшай праблемай сёняшняга дня—калектывізацыяй. Можна адзначыць пэўныя вынікі гэтае работы камісіі.

Так, мы ведаем, што ў Вітунічах нейкі селянін Цыкун сеў у прыхожай Вітуніцкага фэльчара Лютарэвіча і агітаваў за калектывізацыю ўсіх пацыентаў, якія прыходзілі да фэльчара на лячэньне. Калі Лютарэвіч яго запытаўся, адкуль ты ўсё гэта ведаеш, дык Цыкун адказаў: „чуў ад камісіі па чыстцы савецкага апарату, і цяпер мне гэта так ясна, што, бязумоўна, усіх буду агітаваць за калгасы.

У Мсьціжу адзін актыўны калгасьнік Фрыдман казаў: „пасьля работы камісіі па чыстцы ў нас калектывізацыя пойдзе яшчэ шпарчэй“.

К—к.

# ПРАПАНУЕМ—АБГАВАРВАЕМ

## Зьнішчым цяганіну ў праходжаньні заяў

### (Некалькі практычных прапаноў)

У Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР паступае шмат розных заяў, якія ня могуць быць разгледжаны і вырашаны ЦВК па сутнасьці з тае прычыны, што справы не вырашаліся на мясцох, або з прычыны адсутнасьці пры заявах неабходных для разгляду дакумэнтаў.

Для ўстанаўленьня пэўнага і ўсім вядомага парадку падачы розных заяў у Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і для стварэньня такіх умоў, пры якіх справы будуць вырашацца хутка, нам здаецца неабходна ўстанавіць наступны парадак звароту ў ЦВК з рознымі заявамі:

1. Нельга зварочвацца ў ЦВК з заявамі па справах, якія не вырашаліся вышэйшымі мясцовымі органамі—акруговымі выканаўчымі камітэтамі або вышэйшай установай, якая вырашае гэтыя пытаньні, напр.: па падатковых справах—Народным Камісарыятам Фінансаў, па зямельных—Народным Камісарыятам Земляробства, па судовых—Вярхоўным Судом і Пракуратурай Рэспублікі, па справах муніцыпалізацыі — Народным Камісарыятам Унутраных Спраў і г. д.

2. Скаргі на пастановы акруговых выканаўчых камітэтаў або народных камісарыятаў падаюцца праз адпаведныя акруговыя выканаўчыя камітэты або камісарыяты, якія скаргу і ўсю справу з рознымі дакумэнтамі, даведкамі і сваім заключэньнем накіроўваюць у С. Н. К. або Ц. В. К.

3. Да хадайнічаньняў аб памілаваньні трэба абавязкова прыкладаць: копію судовага прыгавару або пастановы адміністрацыйнага органа аб пакараньні і вычэрпваючыя даведкі аб сацыяльным становішчы прасіцеля.

4. Хадайнічаньні аб аднаўленьні ў выбарчых правох павінны падавацца ў адпаведныя саветы і іх выбарчыя камісіі. Скаргі на пастановы сельскіх, местачковых і гарадзкіх (неакруговых гарадоў) саветаў і выбарчых камісій падаюцца раённым выканаўчым камітэтам і выбарчым камісіям. Скаргі на пастановы гарадзкіх саветаў акруговых гарадоў раённых выканаўчых камітэтаў і іх выбарчых камісій падаюцца акруговым выканаўчым камітэтам і іх выбарчым камісіям. Скаргі на пастановы акруговых выканаўчых камітэтаў падаюцца ў Цэнтральную Выбарчую Камісію ЦВК БССР абавязкова праз адпаведныя акруговыя выканаўчыя камітэты. Апошнія накіроўваючы справу ў ЦВК, а таксама ўсе ніжэйшыя саветы, выканкомы і іх выбарчыя камісіі, пры накіраваньні спраў у вышэйшыя органы, абавязкова павінны даваць абгрунтоўваючыя іх пастановы, заключэньні і падрабязговыя, правераныя весткі аб сучасным і мінулым сацыяльна-маемасным становішчы скаргнікаў. У прыватнасьці неабходна знаёміцца са зьместам скарг і, калі ў апошніх падаюцца тыя або іншыя довады на карысьць скаргніка, установа, праз якую падаецца скарга, абавязана ўсебакова праверыць сапраўднасьць гэтых довадаў і даць на іх у сваім заключэньні адказ, чым (якімі фактамі і дакумэнтамі) яны абвяргаюцца, або пацьвярджаюцца.

5. Са скаргамі на бюракратызм і валакіту з боку мясцовых і цэнтральных устаноў трэба зварочвацца ў органы Пракуратуры і РСІ.

Пра гэты парадак, калі ён будзе прыняты, неабходна шырока інфармаваць насельніцтва і вывесіць ва ўсіх людных мясцох адпаведныя плякаты з тлумачэньнямі.

П—н.

### Ад рэдакцыі

Пытаньне зьнішчэньня цяганіны ў праходжаньні заяў зьяўляецца надзвычайна важным ня толькі для ЦВК, але таксама для АВК, РВК і саветаў. Таму рэдакцыя просіць таварышоў з месц выказацца на старонках нашага часопісу па закранутым пытаньні і даць свае прапановы.

# Аб некаторых памылках у працы выбарчых камісій

Разглядаючы пратаколы мясцовых выбарчых камісій, даводзіцца заўважыць шэраг адступленьняў ад інструкцыі аб выбарах у саветы ў частцы аднаўленьня і пазбаўленьня выбарчых правоў. Па нашай думцы, асноўнай прычынай зьяўляецца тое, што з складу выбарчай камісіі толькі адзін-два чалавекі патрохі знаёмы з інструкцыяй, а астатнія сябры зусім ня ведаюць яе. Чаму спрыяе тая акалічнасьць, што выбарчыя камісіі ўтвараюцца пры кожных перавыбарах і толькі на час перавыбарчай кампаніі, прычым склад іх мяняецца.

Акрамя гэтага, каб добра азнаёміцца з інструкцыяй, трэба шмат часу, а сябры камісіі, як правіла, зьяўляюцца заўсёды перагружанымі як па сваёй асноўнай працы, гэтак і па грамадзкай лініі. Скаргі прыходзіцца ім разглядаць ужо ня ў поўнай адпаведнасьці з інструкцыяй, а па асабістым разуменьні кожнага. Адсюль і тыя памылкі, якія мы наглядаем у іх працы. На частцы з іх я і хачу застанавіцца.

Артыкулам 41 інструкцыі аб выбарах у саветы вымагаецца, каб вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права, праводзіўся на грунце вестак дакумантальнага характару, г. зн., што пры пазбаўленьні тэй ці іншай асобы выбарчага права неабходна мець тыя ці іншыя дакумантальныя даныя. У практыцы-ж мясцовай камісіі наглядаецца, што пазбаўленьне вытвараецца ня толькі без падмацаваньня адпаведнымі дакумантамі, але нават і дрэнна абгрунтоўваецца. У выніку, калі грамадзянін абскардзіць пазбаўленьне яго выбарчага права, выцякае цяганіна: справа варочаецца для дасьледваньня, для абгрунтаваньня; пасылаюцца запросы фінансавым ці іншым органам. Замест таго, каб разглядзець скаргу, згодна арт. 49 і 50 інструкцыі ў 3-дзенны і тыднёвы тэрмін, выбарчая камісія можа разглядзець яе праз некалькі тыдняў, а то і больш.

Асобы, або групы, калі яны выкарыстоўваюць выбарчае права на шкоду інтарэсам сацыялістычнае рэвалюцыі, згодна арт. 33 інструкцыі, могуць быць пазбаўлены выбарчага права па хадайніцтву Акруговага Выканаўчага Камітэту пастановай Прэзыдыуму ЦВК, г. зн., калі мясцовая выбарчая камісія знаходзіць, што тую ці іншую асобу належыць пазбавіць выбарчага права па гэтай адзнацы—яна павінна праз адпаведны выканком ці гарсавет (у акруговых гарадох) узьняць такое хадайніцтва, ня ўносячы гэтых асоб у сьпісы пазбаўленых выбарчага права, бо калі няма адпаведнай пастановы Прэзыдыуму ЦВК, яны ня лічацца пазбаўленымі выбарчага права. Мясцовыя-ж камісіі выносяць пастановы аб пазбаўленьні, уносяць гэтых асоб у сьпісы пазбаўленых выбарчага права, а потым узьнімаюць хадайніцтвы аб пазбаўленьні, ды і то не заўсёды. Вышэйстаячым выбарчым камісіям прыходзіцца ўжо выпраўляць такія памылкі толькі пры атрыманьні скаргі пазбаўленага; прычым пастановы, або хадайніцтвы аб пазбаўленьні выбарчага права па 33 арт. амаль што ніколі не абгрунтоўваюцца і не пацьвярджаюцца канкрэтнымі фактамі. Калі сапраўды трэба тую ці іншую асобу пазбавіць выбарчага права па 33 арт. гэтае пазбаўленьне неабходна аформіць неадкладна, па віне мясцовых камісій гэтае пытаньне зацягваецца на некалькі месяцаў, а асоба гэтым часам можа скарыстаць свае выбарчыя правы на шкоду інтарэсам сацыялістычнае рэвалюцыі.

Бываюць надзвычайна недарэчныя пастановы аб пазбаўленьні такіх асоб. Напрыклад, адна Райвыбкамісія, разглядаючы скаргу на пастанову сельскай выбарчай камісіі аб пазбаўленьні выбарчага права, пастанаўляе: „адхіліць, як кулацка антысавецкаму элемэнту і былому войту“. Калі скаргнік—кулак, то ён павінен быць пазбаўлен выбарчага права па 32 арт. інструкцыі, калі антысавецкі элемэнт, — належыць узбудзіць хадайніцтва ў адпаведнасьці з арт. 33, а як войт—ён зусім не падлягае пазбаўленьню выбарчага права, калі няма іншых падстаў для пазбаўленьня.

Згодна закону аб вайсковай службе, асобы, якія пазбаўлены выбарчага права, падлягаюць залічэньню ў тылавое апалчэньне. Бывалі выпадкі, што пры прызыве ў Чырвоную армію прызыўныя

камісіі пераводзілі грамадзян у тылавое апалчэньне ў той час, як яны не пазбаўлены выбарчага права. Мясцовыя-ж выбарчыя камісіі, выходзячы з таго, што даная асоба залічана ў тылавое апалчэньне, пазбаўляе яе выбарчага права.

У практыцы мясцовых выбарчых камісій наглядаюцца і яшчэ наступныя выпадкі. Пазбаўляюцца выбарчага права галава сям'і і члены яго сям'і, як матар'яльна ад яго залежачыя. Пры аднаўленьні галавы сям'і мэханічна аднаўляюцца і гэтыя сябры сям'і; гэта значыць, што пры аднаўленьні Акруговай ці Цэнтральнай выбарчай камісіі галавы сям'і, па яго асабістай заяве, дзе ён не ўпамінае членаў свае сям'і, мясцовая выбарчая камісія павінна выкрэсьліць з сьпісу пазбаўленых ня толькі яго, але і членаў сям'і, якія былі ўнесены з ім у сьпіс, як матар'яльна ад яго залежачыя. На практыцы гэта ня так: мясцовая камісія часта прапануе членам сям'і падаваць асобную заяву аб аднаўленьні.

Бываюць і выпадкі, што пры пазбаўленьні галавы сям'і выбарчага права пазбаўляюцца выбарчага права і члены яго сям'і, якія нават і не залежаць матар'яльна ад яго, маюць самастойны заробак, хоць і пражываюць сумесна ў аднэй кватэры.

Яшчэ бывае, што пазбаўляюцца выбарчага права ня толькі наяўныя члены сям'і, але нават і тыя, якія ўжо некалькі год ня жывуць у данай мясцовасьці, маюць адпаведны працоўны стаж і па сваім сучасным сацыяльным становішчы не падлягаюць пазбаўленьню выбарчага права і не пазбаўлены гэтакіх па месцу свайго новага жыхарства.

Вельмі часта мясцовыя выбарчыя камісіі самі пашыраюць свае правы. Калі, напрыклад, асоба была пазбаўлена выбарчага права па п. „а“, „б“ ці „д“ арт. 32 інструкцыі, то яна можа быць адноўлена ў выбарчых правох пастановай Акруговай выбарчай камісіяй, якая падлягае зацьверджаньню Акруговым Выканаўчым Камітэтам. Гэта значыць, што аднаўленьне такой асобы павінна прайсьці, у мэтах больш правільнага і асьцярожнага вырашэньня пытаньня, праз некалькі інстанцый. На мясцох-жа бывае вельмі часта, што такіх асоб (былых эксплёататараў, гандляроў, ўласьнікаў прамысловых прадпрыемстваў, служыцеляў рэлігійнага культу і г. д.) аднаўляюць самі Райвыбкамісіі.

Па нашай думцы трэба было-б і самую інструкцыю аб выбарах у саветы пераглядзець, бо з часу яе выданьня (у 1927 г.) прайшло ўжо шмат часу і яна часткова ўстарэла, але аб гэтым у другі раз.

**М. Варфман.**

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя просіць т. т. з месц пісаць ня толькі аб памылках, але і даваць свае практычныя прапановы пра спосабы іх зьнішчэньня

**Адхіленьні ад выбарчага законадаўства Саюзу ССР і БССР як управа, гэтак і ўлева аднолькава льлюць ваду на млын клясавага ворага**

# НАМ ПІШУЦЬ

## Бярэзіншчыне—падцягнуцца

Абвостраная клясавая барацьба і шэраг адкрытых кулацкіх выступленьняў рашуча ставяць перад райвыканкомам неабходнасьць узмацненьня працы сярод батрацтва і беднаты і аб'яднаньня батрацка бядняцкіх мас на барацьбу з клясавым ворагам, чаго на сёньняшні дзень няма ў Бярэзінск м раёне, як сыстэмы. Гэтая праца ў раёне носіць кампанейскі характар.

З боку райвыканкому ня было прынята дастатковых мер для разгортваньня калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Праўда, у апошні час райвыканкомцы над гэтым пытаньнем прызадумаліся, дзякуючы чаму калгасны рух пачынае разгортвацца. Зямляўпарадкоўчыя працы ў раёне адменены на 50 проц. Калгасныя гаспадаркі, у большасьці сваёй, будаваліся дробныя і к таму-ж выключна на запасных зямельных фондах. Як кіраўніцтва калгасамі, так і практычная дапамога ім з боку райвыканкому адсутнічалі, што з усёю яскравасьцю гаворыць аб недаацэнцы сацыялістычнай перабудовы ўсяе сельскае гаспадаркі.

Пры правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі не скарыстоўваецца грамадзкасьць, а агранамія і зямчастка РВК не перабудавалі сваю працу на выкананьне тых задач, якія былі пастаўлены партыяй і ўрадам. Плян пасеўнай кампаніі ня быў даведзены да кожнага калгасу, паселішча і двара Ня былі прыстасаваны новыя формы і мэтады працы: сацыялістычнае спаборніцтва, рабочыя і батрацкабядняцкія брыгады, групы лёгкай кавалерыі, сэкцыі РСІ—для ўстанаўленьня масавага кантролю над выкананьнем мерапрыемстваў пасеўнай кампаніі. Агранамія таксама ня прыцягнута да масавага абслугоўваньня калгасаў і паселішч. На вялікі жаль абслугоўваньне агранаміі было накіравана выключна на індывідуальныя сялянскія гаспадаркі.

Мерапрыемствы па разьвіцьці жывёлагадоўлі, торфаўгнаеньнях, вапнаваньні глебы, мэліарацыі і інш. таксама не знайшлі свайго адбітку сярод грамадзкасьці. Поўная абрэзка кулацкіх гаспадарак не праведзена і вучот па гэтым пытаньні адсутнічае.

Райвыканком не ўдзяляў дастатковае ўвагі становішчу мясцовае прамысловасьці, дзякуючы чаму праца камбінату характарызуецца наступнымі адмоўнымі бакамі: сабекаштоўнасьць выпрацоўваемай камбінатам прадукцыі павысілася на 6 проц., а па цэлым шэрагу прадпрыемстваў ня выкананы вытворчыя праграмы, адсутнічаюць нормы выпрацоўкі, што дало дэфіцытнасьць у 5 592 руб. Праведзена шэраг затрат на капітальнае будаўніцтва і рамонт, чаго плянам зусім не прадугледжвалася. Кароткатэрміновыя крэдыты ўкладзены ў нярухомую маемасьць; значна былі прыцягнуты чужыя кароткатэрміновыя зваротныя сродкі, што ставіць камбінат пад пагрозу прагэстаў. Што-ж датычыцца выпаўненьня гаспадарчых кампаній, то поплеч з выкананьнем пляну па насеньню на 158 проц. і ільнавалакну на 232½ проц., маецца значнае недавыкананьне па бульбе, па ільнунасеньню і асабліва кепска абстаіць справа з загатоўкаю другарадных відаў сыравіны. Плян загатовак ня быў своечасова даведзены да кулацкіх гаспадарак і адсутнічала цьвёрдасьць і рашучасьць у выяўленьні ўсіх лішкаў, а таксама і своечасовае выкананьне даваемых тэрмінаў кулацтву.

Надзвычайна кепска пастаўлена праца па распаўсюджаньні сярод сялянства пазык (кантрольная лічба выканана толькі на 54 проц.). Сродкі, якія паступілі па самаабкладаньні на 64 проц. не скарыстаны. Прыток укладаў у касы ашчаднасьці пашоў на ўбытак.

Ільготы, якія прадугледжваюцца адпаведнымі пастановамі ўраду, чырвоным партызанам і інвалідам грамадзянскай вайны, прадстаўляліся несвоечасова. Насельніцтва амаль што зусім незнаёма з тымі ільготамі, якія даюцца па выпаўненьні агрымінімуму.

У справе народнае асьветы ў наяўнасьці нездавальняючае становішча 1928 1929 навучальнага году, а менавіта: па ўсёй сетцы школ 33 проц. другагоднікаў, значны адсеў вучняў (8 проц.). Усеагуль-

нае навучаньне, ліквідацыя няпісьменнасьці і дапамога дзецям батракоў і беднаты — пастаўлены кепска. Адсутнічае знаёмства з сацыяльным складам школ сялянскай і рабочай моладзі. Усё гэта гаворыць за тое, што інспэктарыят народнае асьветы мала клапаціўся аб становішчы асьветы ў раёне, з аднаго боку і, з другога боку, сам райвыканком не правяраў працы свайго інспэктара.

Праца палітыка-асьветных устаноў не прыстасавана для правядзеньня і папулярызацыі калектывізацыі вёскі, як аднаго з асноўных мерапрыемстваў савецкае ўлады і партыі. Нічога ня зроблена і ў галіне ўздыму вытворчасьці сельскай гаспадаркі, а таксама і ўздыму актыўнасьці і культурнага ўзроўню працоўных мас.

Адносна санітарнай і профіляктычнай працы ў раёне тут нічога ня скажаш, бо ў гэтым напрамку нічога не рабілася і нічога ня робіцца.

Пытаньні сацыяльнае забясьпекі і кіраўніцтва апошняю знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы; маецца цэлы шэраг выпадкаў невыкананьня пастаноў вышэйстаячых органаў па гэтым пытаньні, моманты цяганіны, вызначэньне пэнсіі такім асобам, якія не падлягаюць сацыяльнаму забесьпячэньню і г. д.

Арганізацыйна-масавая праца праводзіцца няплянавым парадкам, дзякуючы чаму пастановы па гэтым пытаньні прэзыдыуму ЦВК, пленумаў акрвыканкому ня выкананы і сельсаветы на сёняшні дзень працуюць без адпаведнага актыву. Камісіі пры сельсаветах мёртвыя. Гэтакае становішча стварыла такія ўмовы, што ўвесь цяжар працы па калектывізацыі і іншых мерапрыемствах прышлося вынесьці на сваіх плячох выключна працаўнікам райвыканкому.

Сэкцыі РСІ сваю працу вялі бяз мас, а раённая сэкцыя РСІ не ўстанавіла адпаведнага кіраўніцтва сельскімі сэкцыямі і іх інструктаваньня. Шырокая грамадзкасьць аб працы і існаваньні гэтых сэкцый амаль што не вядае.

Некаторыя сельскія саветы засьмечаны заможнікамі, якія ў сваёй працы праводзяць яўна кулацкую політыку і практыку (Каменаборскі сельсавет). Значная частка старшынь і сакратароў сельсаветаў за скрыўленьне клясавай лініі ў час правядзеньня гаспадарчых кампаній паздымаяы з працы. Ня гледзячы на ўсё гэта, райвыканкомам ня была ўлічана неабходнасьць мерапрыемстваў па перабудове працы сельсаветаў і шырокім ажыцьцяўленьні правоў выбаршчыкаў на датэрміновае адкліканьне сваіх дэпутатаў, якія няздольны праводзіць політыку партыі і савецкае ўлады, у прыватнасьці барацьбы з кулацтвам.

**Ці можна і надалей заставацца ў такім становішчы, у якім апынуўся Бярэзінскі райвыканком?**

**Не, ня можна. Трэба ўсю працу перабудаваць і прыстасаваць да сацыялістычнай перабудовы вёскі.**

У першую чаргу райвыканком павінен зараз-жа прыняць крокі да зьнішчэньня вышэйадзначаных недахопаў у працы як самога райвыканкому, так і сельскіх саветаў. Уся праца павінна быць перабудована ў бок поўнага кіраўніцтва і абслугоўваньня калгаснага руху і калгаснага будаўніцтва, на ўздым вытворчасьці сельскай гаспадаркі.

Прыдзецца райвыканкому зрабіць і такое мерапрыемства, як устанаўленьне адказнасьці працаўнікоў апарату за працу, якую яны праводзяць.

Трэба разгарнуць новыя формы працы і прыцягнуць працоўныя масы да непасрэднага выкананьня мерапрыемстваў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва шляхам разгортваньня крытыкі і самакрытыкі і сацыялістычнага спаборніцтва.

Вясеньнюю пасеўкампанію трэба зараз-жа перавесьці на рэйкі сацспаборніцтва паміж калгасамі, цэлымі сельсаветамі і паселішчамі. Тут таксама патрэбна арганізаваць масавы кантроль, перабудаваць працу агранаміі і пашырыць тэмп калектывізацыі.

Неабходна ўзмацніць кіраўніцтва ўсімі відамі сельска-гаспадарчай і вытворчай каапэрацыі, праверыць іх склад і ачысьціць ад чужых нам элемэнтаў.

Зараз-жа патрэбна зрабіць перелом у справе распаўсюджаньня пазык, уцягненьня ўкладчыкаў у ашчадкасы і ў гэтай справе, ізноў такі, неабходна выкарыстоўваць сацыялістычнае спаборніцтва, скарыстаўшы для гэтае працы рабочы, бядняцкі і серадняцкі актыў.

Узяць пад свой цьвёрды кантроль працу масавай саматужнай прамысловасьці.

а менавіта: разглядаць вытворчыя праграмы і сачыць за іх выкананьнем. Прыняць рашучыя крокі да зьніжэньня сабекаштоўнасьці і павялічэньня вытворчасьці працы. Пашырыць дзейнасьць вытворчых нарад і г. д.

Райвыканкому неабходна зьвярнуць сваю асаблівую ўвагу на масавую працу, максымальна пашырыўшы і ўзмацніўшы працу сярод батрацтва і беднаты, і на вылучэньне апошніх на розныя адказныя і кіруючыя пасады.

Колькі-б гэта не каштавала, а трэба дабіцца палепшаньня працы школ, лікпунктаў і стварэньня лепшых умоў для дзяцей батрацтва і беднаты, пры якіх-бы яны змаглі нармальна вучыцца.

Трэба палепшыць кіраўніцтва працаю розных грамадзкіх арганізацый, як: „Асоавіяхім“, „Прэч Няпісьменнасьць“ і інш.

Вось—асноўнае, што на сёняшні дзень маецца ў Бярэзінскім раёне і што трэба зрабіць надалей, каб палепшыць усю працу як самога райвыканкому, а таксама і сельскіх саветаў.

**Сяргей Лодысеў.**

# Юрыдычна-даведачны аддзел

## Пазбаўленьне выбарчага права і абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку

У адпаведнасьці з растлумачэньнем Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР за 16 лютага 1930 г. аб тым, што абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку не выклікае мэханічнага пазбаўленьня выбарчага права, Прэзыдыум ЦВК БССР 27 лютага 1930 г. скасаваў сваю пастанову па гэтым пытаньні за 17 сьнежня 1929 г., сутнасьць якой заключалася ў тым, што абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку беспасрэдна цягне за сабой пазбаўленьне выбарчага права ва ўсіх бяз выключэньня выпадках.

Паўстае пытаньне: якая-ж зараз існуе залежнасьць паміж індывідуальным абкладаньнем і пазбаўленьнем выбарчага права.

У п. п. „а“ і „б“, арт. 32 Інструкцыі, аб выбарах у саветы, зацьверджанай Прэзыдыумам ЦВК БССР 26 лістапада 1927 году, дакладна паказана, хто з земляробаў павінен пазбаўляцца выбарчага права. Арт. 40 Інструкцыі абавязвае гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы весьці сталы пісьмовы вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права. Паводле гэтага, саветы павінны стала сачыць за складам насельніцтва, яго заняткамі і г.д. і ў адпаведных выпадках (эксплёатацыя наёмнай працы, закабаленьне акаляючага насельніцтва і іншыя адзнакі, што зьяўляюцца адзнакамі кулацкай гаспадаркі, сваячасова вырашыць пытаньні аб пазбаўленьні выбарчага права. Тыя-ж самыя акалічнасьці (эксплёатацыя, закабаленьне і г. д) па лініі падатковай выклікаюць абкладаньне сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку. Але гэта ня значыць, што саветы павінны чакаць кампаніі па абкладаньні сельска-гаспадарчым падаткам і толькі на падставе яе вынікаў пазбаўляць выбарчага права тых асоб, якія абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку. Гэта значыла-б, што пытаньне аб пазбаўленьні выбарчага права індывідуальнікаў ніколі па сутнасьці не разглядалася-б саветамі, што гэта вельмі важнае палітычнае пытаньне вырашалася-б толькі фінансавымі органамі, а саветы мэханічна афармлялі-б гэтыя пастановы па лініі выбарчага права, нават і ў тых выпадках, калі фінансавыя органы дапусьцілі-б памылкі ў абкладаньні с.-г. падаткам.

Паводле гэтых меркаваньняў пытаньне аб пазбаўленьні выбарчага права саветы павінны вырашаць саўсёды сваячасова і самастойна, прымаючы пад увагу толькі тыя акалічнасьці, якія прадугледжаны ў Інструкцыі аб выбарах у саветы, як прычыны пазбаўленьня выбарчага права, а ня тыя вывады, якія з гэтых прычын ужо зроблены па іншых галінах работы (у прыватнасьці, напр., па падатковай лініі).

**А. П.**

# Агляд важнейшых пастаноў Ураду БССР

## Ліквідацыя зямельных камісій

Пастановай ЦВК і СНК БССР за 17/I 1930 г. ліквідаваны: Асобная Калёгія Вышэйшага Кантролю па зямельных справах, акруговыя і раённыя земельныя камісіі. У сувязі з гэтым зямляўпарадчыя справы, а таксама спрэчкі аб праве карыстаньня водамі, аб пабудаваньні і раскіданьні вадападпорных і вададзейных пабудоў, аб падтопах, аб розных мэліарацыях і распрацоўках торпу, аб стратах пры адшуканьні, аб скасаваньні дагавароў на ўсякія вадакарыстаньні, скаргі на выключэньні з таварыства, іскі аб стратах, якія вынікаюць з усіх гэтых спрэчак—перададзены на вырашэньне РВК і АВК. Нагляд за вырашэньнем гэтых спраў ускладзен на Наркамзем. Усе іншыя зямельныя спрэчкі, за выключэньнем тых, якія ўваходзяць у кампэтэнцыю сельскіх і местачковых судоў, перададзены на вырашэньне народных судоў.

## Дапамога асобам і гаспадаркам, якія пацярпелі ад кулацкага тэрору

Згодна пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/I 1930 г. АВК абавязаны ўтварыць фонды для аказаньня адначасовых безваротных дапамог асобам і гаспадаркам, якія пацярпелі ад кулацкага тэрору, асабліва для аплаты страт ад незастрахаванай маемасьці. Паказаныя фонды АВК складаюцца з: 1) 25% ад штрафных сум, якія спаганяюцца з асобных гаспадарак за парушэньне пастаноў сельскіх сходаў аб невыкананьні хлебазагатовак; 2) спэцыяльных асыгнаваньняў па дзяржаўным і мясцовым бюджэце; 3) процантаў за захаваньне гэтых фондаў.

Пытаньне аб выдачы дапамогі вырашаецца спэцыяльнымі камісіямі пры АВК, прычым пастановы гэтых камісій павінны зацьвярджацца прэзыдыумам АВК.

У выпадку калецтва альбо сьмерці ад кулацкага тэрору самі пацярпеўшыя або сем'і памерлых забясьпечваюцца шляхам выдачы ім страхавымі касамі, альбо органамі сацыяльнага забясьпечаньня, пэнсій.

## Пашырэньне правоў сельскіх саветаў

У мэтах поўнага выкананьня пляну вывазкі дроў і лесаматар'ялаў ЦВК і СНК БССР 27/I—30 г. прынялі пастанову аб дачы сельскім саветам права ў тых выпадках, калі кулацкія гаспадаркі будуць ухіляцца ад гужавой павіннасьці па вывазцы дроў і лесаматар'ялаў, накладаць на іх штраф да 300 рублёў. У выпадках арганізаванага па ўзаемнай згодзе адмаўленьня альбо ўхіленьня кулацкіх гаспадарак ад выкананьня гужавой павіннасьці, сельскія саветы павінны перадаваць справы ў суд для прыцягненьня да адказнасьці па 95 арт. КК.

## Выканкомы і саветы і ашчадная справа

У сувязі з правядзеньнем „Месячніка Ашчаднасьці", Прэзыдыум ЦВК БССР 7/II абавязаў усе саветы і выканаўчыя камітэты ўстанавіць сталы нагляд за выкананьнем ашчаднымі касамі кантрольных лічбаў, а таксама за тэмпам разгортваньня „Месячніка Ашчаднасьці". Саветам і выканкомам даручана па сканчэньні „Месячніка" заслухаць справаздачныя даклады ашчадных кас і камісій садзейнічаньня аб праробленай рабоце і яе выніках, а таксама мець сыстэматычны нагляд за замацаваньнем дасягнутых у час „Месячніка" актыўнасьці і павышанай якасьці работы ашчадных кас. Саветы і сэкцыі ў свае пляны работ павінны ўключаць сыстэматычнае заслухоўваньне справаздачных дакладаў кіраўнікоў ашчадных кас аб іх рабоце.

## Пра абслугоўваньне вясковага насельніцтва гарадоў Менску і Бабруйску

Для лепшага абслугоўваньня вясковага насельніцтва тых насельных пунктаў, якія ўваходзяць у гарадзкую мяжу гарадоў Бабруйску і Менску пастановай Прэзыдыуму ЦВК за 17 лютага Сьлепянскі і І-шы прыгарадны сельсаветы аб'яднаны ў адзін пад назвай „Прыгарадны сельсавет"—з цэнтрам зна-

ходжаньня ў г. Менску. Прыгарадныя насельныя пункты гор. Бабруйску: Бярэзінскі фарштат, Паплавец, Глыбокі, х. Шчыгельскіх, Млынок, Лягерная Слабодка, Назараўка, Курлянд, Лукі, Крывы Крук, Цітаўка і Зяленка аб'яднаны ў адзін „Прыгарадны сельсавет“. Гэтыя 2 прыгарадныя сельсаветы ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адносінах падпарадкаваны адпаведным гарадзкім саветам: Менскаму і Бабруйскаму.

## Аб арганізацыйным аддзеле прэзыдыуму ЦВК

Пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР Арганізацыйны аддзел рэарганізаваны ў Арганізацыйна-Інструктарскі аддзел Прэзыдыуму ЦВК, пры якім існуюць часткі: інструктарская і інфармацыйна-вучотна-статыстычная.

## Аб удзеле членаў ЦВК у калектывізацыі

17 лютага Прэзыдыум ЦВК зьвярнуўся да ўсіх рабочых і сялян—членаў і кандыдатаў у члены ЦВК БССР аб прыняцьці імі актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і з паказаньнем прыкладных форм гэтага ўдзелу: работа сярод рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства па арганізацыі калгасаў і работа сярод іх у самых калгасах, дапамога ў арганізацыі бядняцкіх груп, тлумачэньне сялянам пераваг калектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай, дапамога ў вырашэньні арганізацыйных пытаньняў калгаснага будаўніцтва, садзейнічаньне арганізацыі рабочых брыгад у калгасы, арганізацыя шэфства над калгасамі і г. д. Члены і кандыдаты ў члены ЦВК павінны самі абавязкова ўступіць у калгасы і такім чынам асабістым прыкладам агітаваць за калектывізацыю.

Аб удзеле ў калектывізацыі і аб яго практычных выніках членам і кандыдатам у члены ЦВК прапанована сыстэматычна паведамляць Прэзыдыуму ЦВК.

## Пасылка рабочых—членаў гарсаветаў у вёску

Задачы правядзеньня суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, якія стаяць зараз перад сельскімі саветамі, для пасьпяховага іх вырашэньня выклікаюць неабходнасьць дапамогі сельскім саветам у гэтай справе. Пасылка рабочых—членаў гарсаветаў на сталую работу ў вёску мае гэта на мэце. Пастановай Прэзыдыуму ЦВК за 17 лютага агульная лічба пасылаемых у вёску—200 членаў гарсаветаў,—разьмеркавана па паасобных гарсаветах. Намячаемыя кандыдатуры пасылаемых павінны быць пастаўлены на шырокае абгаварэньне на агульных сходах рабочых і пленумах гарадзкіх саветаў. Пасылка рабочых-актывістых у вёску павінна разглядацца як пачэсная і адказьнейшая работа, на якую могуць быць пасланы толькі лепшыя загартаваныя рабочыя, палітычна падрыхтаваныя, добра разумеючыя сучасныя задачы партыі і савецкай ўлады ў вёсцы і ў той-жа час добра знаёмыя з жыцьцём вёскі.

## Скасаваньне ЦСУ і яе мясцовых органаў

27 лютага прынята пастанова ЦВК і СНК аб скасаваньні, як самастойнага ведамства, Цэнтральнай Статыстычнай Управы і яе мясцовых органаў. Функцыі і апарат ЦСУ перададзены Дзяржпляну, акруговых статыстычных бюро—акруговым плянавым камісіям.

А. Пятосін.

Выдае Прэзыдыум ЦВК БССР

Рэдактар—Рэдкалегія.

## Вяскор Шымакоўскі

(Бягомль) падпісаўся на „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“ на тры месяцы. Выклікае зрабіць па яго прыкладу ўсіх вяскораў і вясковых актывістых.

●

## Гомельскі Р. В. К.

выпісаў „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“ на 6 месяцаў для ўсіх сельсаветаў раёну.

●

## Касьцюковіцкі Р. В. К.

выпісаў для РВК і ўсіх Саветаў раёну „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“ на ўвесь 1930 год і вылучыў 2 карэспандэнтаў з РВК і 26 па Саветах раёну.

## ХТО НАСТУПНЫ?

## СЬПЯШАЙЦЕСЯ ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІС САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“

**Пішэце ў „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“, вярбуйце падпішчыкаў і карэспандэнтаў.**

ХТО НАСТУПНЫ?

# Да ўсіх нашых дапісчыкаў.

Допісы і артыкулы ў часопіс просьба пасылаць чытэльна напісанымі, па магчымасьці машынкай, на адным баку старонкі, з інтэрваламі паміж радкоў і палямі, каб можна была рабіць папраўкі і дапіскі.

Назвы ўстаноў і прадпрыемстваў у артыкулах і допісах просьба не скарочваць, а пісаць поўна.

Апрача псэўдоніму, выразна і дакладна пішэце ў допісах прозьвішча, імя і адрас, каб рэдакцыя ня мела перашкод пры рассылцы аўтарам ганарару за зьмешчаныя матар'ялы.

РЭДАКЦЫЯ.

